# НА КОНКУРС „МАЛАДОСЦІ“





«Юныя турысты» — так назваў свой фотаздымак Алік Петрушэнка (Мінскі палац піянераў).

Ленінградзец Андрэй Кострыца прыслаў на конкурс здымак, на якім адлюстраваны момант ігры на Усесаюзных спаборніцтвах футбалістаў маладзёжных каманд. Выступаюць каманды Масквы і Мінска.

Верасень... Адчыніліся дзверы ВНУ. Фотааматар І. Ароцкер з горада Мінска сфатаграфаваў уваход у Беларускі політэхнічны інстытут.

Спартсмен Бараноўскі В. прыслаў фотаэцюд «На рыбалцы». Здымак зроблены ў аколіцах Мінска.





На першай старонцы вокладкі: слухач Рэспубліканскай школы кіруючых калгасных кадраў Марк Акімавіч Храмцоў з дзецьмі Святланай і Рыгорам, якія вучацца ў школе вёскі Рылаўшчына, накіроўваюцца на заняткі.

На чацвёртай старонцы вокладкі: абсалютная чэмпіёнка БССР па гімнастыцы Майя Лахцікава, якая заняла першае месца сярод гімнастак другой групы на Спартакіядзе народаў СССР.

Фото А. Дзітлава.




# ПРЫШОЎ САЛДАТ

С. КУХАРАЎ, С. ЧЫРЭШКІН

— Забірайцеся ў глыбінны раён, — параілі нам у Гродна, калі мы загаварылі наконт таго, каб расказаць пра нядаўніх салдат, што вярнуліся ў родныя мясціны. — Не едзьце толькі ў блізкі, прыгарадны калгас. Там хлопцаў вельмі мала, усе, вярнуўшыся з войска, асядаюць ў горадзе...

Прызнацца, мы і самі так думалі. І ўжо селі ў аўтобус, які адпраўляўся ў «глыбінку». Побач з намі ў машыне ўсеўся плячысты хлапчына; паношаная гімнасцёрка і шапка-вайскоўка з чырвонай акантоўкай выразна гаварылі, што ён быў салдатам. Як звычайна бывае ў дарозе, мы хутка разгаварыліся.

— А як-жа, служыў, — бойка адказаў хлопец на наша пытанне і спрытна паправіў шапку, хоць яна і так фацэтна сядзела на яго галаве.— У артылерыі служыў, але ўжо ўвосень будзе два гады, як дэмабілізаваўся. Цяпер працую ў калгасе, па кавальскай справе, па-простаму сказаўшы, малатабойцам...

Крыху памаўчаўшы, наш новы знаёмы простадушна спытаў:

— А вы куды едзеце?

— Ды як вам сказаць, вось думаем пацікавіцца, як жывуць нядаўнія вайскоўцы.

— Дык, можа, да нас, у Капцёўку? — запытаўся ён.

— А што, хіба ў вашай Капцёўцы такіх многа? Гэта-ж, відно, тут недалёчка?..

— На дванаццатым кіламетры ад Гродна,— удакладніў наш спадарожнік і пачаў расказваць пра сябе і пра сваіх сяброў-аднагодкаў, якія пабывалі на вайсковай службе і вярнуліся ў родную калгасную сям'ю. З арміі колішнія вясковыя хлопцы прышлі не толькі фізічна загартаванымі, дужымі, але і з новымі маральнымі якасцямі савецкага маладога чалавека. Амаль усе, што служылі ў войску, вярнуліся камсамольцамі, павысіўшы сваю пісьменнасць, многія атрымалі там якую-небудзь спецыяльнасць.

— У нас вайскавікоў многа,— расказваў далей наш спадарожнік, назваўшы сябе Змітраком Грулем.— Сёлета прышло дадому чалавек з дзесяць. Працуюць, як трэба!..

Змітрок загадкава ўсміхнуўся, відаць, наважыўшы сказаць нам нешта важнае, прайшоўся жылістай пяцярнёй па светлых валасах і паправіў шапку.

— Працуюць зараз усе, бо добра атрымліваюць. У нас, у калгасе, можна зарабіць больш, як на любым прадпрыемстве ў горадзе. Завітайце да нас, у Капцёўку. «Першае Мая» наш калгас называецца, дык вам самі людзі раскажуць. Летась па паўтара кілаграма збожжа ды па чатыры рублі грошай атрымалі на працадзень, а ў гэтым годзе мецьмем яшчэ больш... Вось і калгаса ніхто не цураецца. Наадварот, усе адыходнікі сцягваюцца, на бацькаўшчыну едуць!..

Змітрок змоўк, задумліва паглядзеў праз шкло на палі, устаўленыя купчастымі пшанічнымі бабкамі. Хлопец добра абкураны кавальскім вугалем, і гэта надае яму сталасць і мужнасць. З такімі тварамі мы бачылі салдат на вайне, у час, калі яны заканчвалі бой, вызваліўшы яшчэ адзін свой населены пункт ад ворага.

— Вось праклятае надвор'е,— уздыхае Змітрок.— Не дае, халера

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

Верасень.

№ 9 (42).

1956.




**Бібліятэкар Аня Братчук выдае кнігі быламу мараку Івану Бычыку.**

на яго, управіцца з ураджаем. Але нічога — мы бога перахітравалі, навучыліся ўбіраць пры ўсякім надвор'і...

Потым мы зноў вярнуліся да ранейшай размовы.

— Вядома, тыя нашы хлопцы, што раней пакідалі вёску,— разважаў Змітрок,— можна сказаць, і не вінаваты. А што было рабіць, калі дома не было прыклёпу? Чаго там грэх таіць, я сам быў шмаргануў з дому, думаў хоць у дворнікі якія прыткнуцца. Пакаштаваў белага хлеба, але, як бачыце, вярнуўся ў бацькоўскую хату.

Расказваў нам Змітрок Груль яшчэ пра добрыя калгасныя навіны, пералічваў, што сёлета пабудавана, якія прыбыткі дасць гаспадарка, і, нарэшце, прызнаўся, чаго ездзіў зараз у горад.

— Вяселле ў мяне ў наступную нядзелю,— амаль шэптам прамовіў ён.— Трэба было сёе-тое прыкупіць. Грошай мне для гэтага праўленне выдала — тысячу рублёў, авансам...

— Адкуль-жа твая дзяўчына?— пацікавіліся мы.

І Змітрок шчыра адказаў:

— Наша, з Палаткова, калгасніца...

...Бліскучая, выпаласканая летнімі дажджамі стужка гасцінца нечакана на павароце абарвалася, і перад намі мільганула шыльдачка — «Капцёўка». З кучаравых прысад весела пазіралі светлымі вокнамі капцёўскія хаты. Запахла кропам, гуркамі.



**Качагар Міхаіл Чэкаль.**

— Мне тут трэба сходзіць, — ускінуўшы рэчавы мяшок на плечы, сказаў наш гаварκі спадарожнік і яшчэ раз запрасіў нас з сабою. Ён паказаў нам калгасную кантору — беласнежны мураваны дамок за азяркам у зялёнай аправе, а сам пругкім, бадзёрым крокам пайшоў направа вільготнай палявой дарожкай. Адышоўшыся крыху, схамянуўся, крыкнуў нам:

— Дык вы, таварышы, зайдзіце і да мяне. Тут недалёчка, за ўзгоркам, вёска Палаткова. Спытайце Груля, брыгадзіравага сына, кожны пакажа. Будзем чакаць!

У калгаснай канторы, як і трэба было чакаць, мы не засталі ні старшыні, ні яго намесніка. Рашылі самі знаёміцца з людзьмі калгаса. Да таго-ж мы ўжо знаёмы з адным з іх, які і падахвоціў нас змяніць свае планы. Можа, і нялёгка нам прышлося-б у першы дзень у Капцёўцы, бо старшыня прыехаў толькі ўвечары, але трапіўся нам другі чалавек, які даў далейшыя ніці знаёмства з людзьмі. Гэта быў пажылы, на выгляд замкнуты і маўклівы чалавек — сакратар Капцёўскага сельсовета. Ён пацвердзіў словы нашага спадарожніка:



**Каваль Змітрок Груль.**

— Так. Усе нашы, што прызываліся ў армію і адбылі свой тэрмін, вярнуліся. Хлопцы працуюць у калгасе, у МТС. А некаторыя, як Вашкевіч Стась, вучацца. На сваіх салдат не крыўдуем. Хлопцы малайцы!

Праз некалькі хвілін мы ўжо ведалі больш дзесятка прозвішчаў хлопцаў з Капцёўкі і іншых вёсак, што ўваходзяць у буйны калгас «Першае Мая».

Міхаіл Этэль — шафёр, Вацлаў Шышко — таксама шафёр, Кастусь Гаук і Янка Булак — трактарысты, Сцяпан Ярашэвіч — памочнік брыгадзіра тутэйшай трактарнай брыгады, Міхаіл Чэкаль — качагар калгаснай электрастанцыі, Іван Бычок — лакамабіліст... Амаль усе гэтыя хлопцы — комсамольцы, старанныя і паважаныя людзі ў калгасе.

**Шафёр Міхаіл Этэль.**

Неўзабаве да нас падышоў малады чалавек з армейскай выпраўкай, сціпла назваў сябе:

— Сенін Віктар, намеснік сакратара комсамольскага камітэта.

Як выявілася, сакратар комсамольскай арганізацыі калгаса знаходзіцца на вучобе, і Віктар яго цяпер замяняе.

— Куды-ж вас павесці?— сам у сябе запытаў Віктар.— У нас былыя армейцы ёсць усюды: і на будоўлях, і на фермах, і на палявых работах.

А потым ажывіўся, усклікнуў:

— Вось я дзівак! Пойдзем спачатку на нашу электрастанцыю. Там у нас цэлая «воінская адзінка», праўда, сабраная з розных родаў войск. Міхаіл Чэкаль — былы старшына-радыст, Іван Бычок — старшына-боцман, Уладзімір Захаркевіч — артылерыст. Ну, а я — служыў у чыгуначнай часці...



**Цясляр Анатоль Сарока.**

Калгасную электрастанцыю, дзе працуюць сябры-комсамольцы, справядліва называюць сэрцам гаспадаркі. Ля лакамабіля трымаюць вахту нязменна качагар і машыніст-механік. Адсюль, з гэтага невялічкага дамка над возерам, ідуць праводы на жывёлагадоўчыя фермы, на ток, да лесапільні, у калгасныя хаты. У чатырох брыгадах ужо ёсць электрычнае святло. Недалёка той час, калі ва ўсіх дзевяці паселішчах калгаса загарыцца лямпачка Ільіча.

...Міхаіл Чэкаль увішна кідае шуфлем торф у пашчу лакамабіля, пазірае на манометр і, выціраючы спацелы твар, пытае ў механіка Кастуся Амосава:

— Як, хопіць?

— Парадак! — коратка адказвае механік і зноў пільна сочыць за прыборамі.

Міхаіл Чэкаль — самы малады з качагараў. Ён толькі сёлетняй вясной вярнуўся з арміі і ўжо за кароткі час авалодаў сваёй новай цывільнай працай.

— Штомесяц атрымліваю сорак працадзён, — гаворыць Міхаіл. — Гэта не мала, калі ўлічыць, што сёлета прыпадзе па рублёў сем грошай, па два кілаграмы збожжа, ды бульба, ды гароднiна...

Пазнаёміліся мы і з іншымі членамі невялічкага калектыву электрастанцыі. Усе хлопцы дружныя, працавітыя. Усе заклапочаны, каб хутчэй асвяціць дамы калгаснікаў дзівосным электрычным святлом, аблегчыць працу сваіх бацькоў.

З Іванам Бычыкам — вясёлым мараком, як яго называюць у Капцёўцы, сустрэча адбылася ў мясцовай бібліятэцы надвячоркам, калі туды звычайна збіраецца моладзь абмяняць кнігу, пачытаць газету ці проста перакінуцца жартамі.

— Абавязкова здымiце нашага Івана-марака, — просіць нас загадчык бібліятэкі Марыя Сакалоўская. — Ён у нас актыўны чытач і самадзейны артыст.

**Памочнік брыгадзіра трактарнай брыгады Сцяпан Ярашэвіч прышоў да камбайнера Антося Аўдаценкі пацікавіцца, як ідзе ўборка.**





**Міхаіл Чэкаль і медсястра мясцовага ўрачэбнага ўчастка Алеся Базар на адпачынку.**

— Які там ужо з мяне артыст,— бянтэжыцца Іван і, памаўчаўшы, дадае:— Трэба часцей выязджаць з канцэртамі да суседзяў. Якія-ж з нас самадзейнікі, што за лета ўсяго раз выбраліся ў далёкія брыгады?

— Так ужо і адзін раз! А тых вечароў, што ў клубе, ты не лічыш, хлопча?— пярэчыць Сакалоўская, трымаючы ў руках абанементную картку Івана Бычыка, і пытае:— Якую сабе кніжку возьмеш?

— Мне што-небудзь па электрыфікацыі падбяры.

Бібліятэкар Аня Братчук падае Івану патрэбную кніжку.

Гэта ў яго картцы трыццаць дзевятая кніжка ў сёлетнім годзе.

У ліку актыўных наведвальнікаў бібліятэкі многія хлопцы, што вярнуліся з арміі. Многа і заўзята чытаюць комсамольцы Міхаіл Этэль, Раман Ліпінскі, Уладзімір Макарэвіч, Віктар Сенін. Кніга, якую палюбілі гэтыя хлопцы ў арміі, і цяпер з'яўляецца верным спадарожнікам у жыцці.

Мы пабывалі ў кузні, дзе працуе Змітрок Груль са сваім сябрам Стасем Залеўскім, на будоўлі новага тыповага кароўніка, дзе сустрэліся з былым салдатам-танкістам, а цяпер добрым цесляром Антонам Сарокам, ездзілі па палях, дзе ў той час быў самы разгар уборкі... Усюды, на ўсіх цяжкіх і важных аб'ектах мы сустракалі гэтых маладых, загартаваных вайсковым жыццём і паходамі хлопцаў. Вярнуўшыся ў вёску, салдаты-комсамольцы ўнеслі свежы струмень у жыццё калгаснай комсамольскай арганізацыі. Сіламі моладзі ў брыгадах абсталяваны спартыўныя пляцоўкі, на фермах — чырвоныя куткі. Весялей цяпер праходзяць маладзёжныя вечары ў клубе. У працы і ў адпачынку моладзь паказвае спрыт і задор.

І старшыня Іван Рыгоравіч Сенін, які вазіў нас на сваім газікуўсюдыходзе, і брыгадзіры цёпла хвалілі іх, ставілі ў прыклад. А бацькі з гонарам кажуць:

— Ды яно інакш і не можа быць — хлопцы-ж у нашай, Савецкай Арміі праходзілі службу!

...Непрыкметна бяжыць лета. На выспах зацвілі верасы — прыкмета блізкай восені. У прыгожых капцёўскіх бярозах пракінулася першая кволая жаўцізна і зацерушыліся тыя сцежкі па-над возерам, дзе летнімі вечарамі позна звінелі дзявочыя песні. Мабыць, ужо не адно вяселле згулялі працавітыя капцёўцы. А нам здаецца, што мы гасцілі ў іх зусім нядаўна.

І цяпер ніколькі не шкадуем, што ў той раз не паехалі ў «глыбінку».

**Калгас «Першае Мая»**
**Гродзенскага раёна.**

# Не праходзьце без увагі!

**Я. ДУБРОВІН**

Тысячы людзей — канструктараў і майстроў, сталявараў і токараў, фрэзероўшчыкаў і тэхнолагаў, інжынераў і мадэльшчыкаў удзельнічаюць у стварэнні трактара — гэтай выдатнай машыны. Тут закладзена і твая праца, малады рабочы і спецыяліст. Дзе-б ты ні працаваў — ля складанага аўтамата ці ля фармовачнай машыны, шматтоннага молата ці за такарным станком, у канструктарскім бюро ці каля электрапечы,—не будзь роўнадушным, не праходзь міма марнатраўства і браку, актыўна змагайся за тэхнічны прагрэс, за высокую культуру вытворчасці. Памятай — з малога складаецца вялікае, з простага — складанае.

Вось прыклад. Калі кожны рабочы трактарнага цэха № 2 павысіць прадукцыйнасць працы толькі на адзін працэнт, гэта дасць магчымасць выпусціць дадаткова дэталей на 100 трактараў у год. А адзін працэнт эканоміі металу дае дэталей на 160 трактараў або эканоміць 7792 кілограмы сталі.

Удумайся ў гэтыя лічбы! Паглядзі, як працуе твой таварыш. Ці ўсё вы зрабілі, каб поўнасцю выкарыстаць рэзервы вытворчасці? У якім стане твой станок, як на вашым участку, у цэху ўкараняецца новае, перадавое?

Некалькі месяцаў таму назад па прыкладу моладзі Першага дзяржаўнага падшыпнікавага завода імя Л. М. Кагановіча комсамольцы Мінскага трактарнага завода вырашылі навесці на сваім прадпрыемстве ўзорную чысціню і парадак. Былі створаны рэйдавыя брыгады, кантрольныя комсамольскія пасты. Шматлікія плакаты заклікалі маладых трактаразаводцаў не мірыцца з бескультур'ем, не праходзіць міма бруду. У спецыяльных графіках адзначалася, як кожны малады рабочы змагаецца за культуру свайго рабочага месца.

І вось ужо ля графікаў тоўпіцца моладзь, горача абмяркоўвае вынікі першай праверкі рэйдавых брыгад. Не аднаму маладому рабочаму давялося чырванець, калі супраць яго прозвішча стаяў трохкутнік, акуратна затушаваны чорнай фарбай. Гэта азначала, што ягоны станок быў брудны. Але больш было ўсё-ж чырвоных трохкутнікаў: значыць, не дарэмна комсамольская старанне!

Нядзеля. Выхадны дзень. А на заводскі двор групамі і ў адзіночку ішлі хлопцы і дзяўчаты. Не ў святочным уборы, а ў рабочых спяцоўках, не на гулянку, а на працу. Песнямі і жартамі, вясёлым гоманам агаласілася навакolле. Здавалася, гмахі карпусоў пасвятлелі. Гэта моладзь вышла на свой першы комсамольска-маладзёжны нядзельнік.

Закіпела работа. У гэты дзень было сабрана сотні тон металічнага лому. Маладыя рабочыя чыста вымылі вокны ў цэхах, сабралі і вывезлі металічную стружку. На звалцы, куды ніхто не заглядваў гадамі, знайшлі нямала годнага металу, нават каштоўныя дэталі.

У наступную нядзелю комсамольцы зноў арганізавалі такі нядзельнік. Цяпер да моладзі далучыліся і пажылыя рабочыя.

— Малайцы комсамольцы, добрую справу робяць,—загаварылі на заводзе.

Каштоўную ініцыятыву комсамольцаў адобрылі ў партыйным камітэце. Дырэктар завода выдаў спецыяльны загад. Начальнікі цэхаў узяліся аказаць моладзі ўсямерную падтрымку ў барацьбе за парадак на кожным рабочым месцы, за высокую культуру вытворчасці.

Многае ўжо зроблена. Узяць, напрыклад, рамна-прэсавы цэх. Гэта быў адзін з самых адстаючых на заводзе. Дастаткова сказаць, што толькі за тры месяцы брак металу дасягнуў 455 тон. А што рабілася ў праходах, у кладовай! Не прайсці ад бруду.

— Не дадзім спакойнага жыцця нядбайным,— вырашылі члены комсамольскага бюро.

Не праходзіла дня, каб на дошцы паказчыкаў, каля праходной, а то і на дзвярах кабінета начальніка цэха не з'яўляліся новыя «маланкі», сатырычныя лістоўкі, у якіх крытыкаваліся недахопы.

«Кантрольны комсамольскі пост, — гаворыцца ў адной з «маланак»,— на звалцы выявіў 4300 кілограмаў металу, вывезенага з нарыхтоўчага аддзялення. Дзяржаве нанесены страты ў суме больш 5 тысяч рублёў. Вінаватыя — начальнік нарыхтоўчага аддзялення Осіпчык, майстры Уласюк, Міхайлаў, Паўловіч, начальнік аддзялення вялікіх прэсаў Магілевіч».

Комсамольцы дамагліся, каб гэты выпадак быў абмеркаваны на вытворчай нарадзе. Неўзабаве начальнік цэха выдаў загад, у якім вінаватыя ў марнатраўстве прыцягваліся да матэрыяльнай адказнасці.

Раз у тыдзень у начальніка цэха збіраюцца члены комсамольскага бюро, групкомсоргі, члены кантрольнага паста, майстры, начальнікі аддзяленняў. Як звычайна, дакладвае інжынер Эдуард Сухадрэў, які ўзначальвае пост комсамольскага кантролю. Ускрываюцца ўсе выяўленыя комсамольцамі недахопы, намячаюцца канкрэтныя меры да іх ліквідацыі, уносіцца каштоўныя прапановы.

Прыемна зайсці цяпер і ў аўтаматны цэх. Яго па праву назы-

# Спартакіяда 40 нацыянальнасцей

З 5 па 16 жніўня ў Маскве праходзілі грандыёзныя спартыўныя спаборніцтвы, якія ўвойдуць у гісторыю сусветнага спорту, як Спартакіяда народаў СССР. Звыш 17 мільёнаў чалавек аспрэчвалі права выступіць у Маскве. У Спартакіядзе прыняло ўдзел звыш 40 нацыянальнасцей, якія насяляюць Савецкі Саюз.

У праграму Спартакіяды ўваходзілі спаборніцтвы па 21 віду спорту. 5 жніўня пачалася барацьба асобных спартсменаў і цэлых калектываў за прызавыя месцы. Гэта была цікавая і напружаная барацьба лепшых савецкіх спартсменаў.

Праз 12 дзён, 17 жніўня, у Зялёным тэатры Цэнтральнага парка культуры і адпачынку імя М. Горкага адбылася заключны вечар удзельнікаў Спартакіяды, на якім пераможцам Спартакіяды былі ўручаны прызы Савета Міністраў СССР.

Тры прызы Савета Міністраў СССР заваявалі каманды РСФСР (Масква, зборная абласцей і Ленінград). Масквічы набралі 471 ачко. Маскоўскія спартсмены былі першымі па 12 відах спорту.

Зборная абласцей, краёў і аўтаномных рэспублік заняла другое месца, набраўшы 434 ачкі. Ленінградцы занялі трэцяе месца (412,5 ачка). Далей месцы размеркаваліся наступным чынам: чацвёртае месца заваявала каманда Украіны, пятае — Грузіі, шостае — Эстоніі і сёмае — Беларусі.

Каманда Беларусі набрала 290,5 ачка.

Спартакіяда народаў СССР выявіла рад маладых, таленавітых спартсменаў.

Каманда Беларускай ССР, якая выступала на Спартакіядзе, дабілася нядрэнных вынікаў. Беларускія фехтавальшчыкі (старшы трэнер Г. Бокун) занялі чацвёртае месца. Такое-ж месца заваявалі і баксёры (старшы трэнер В. Коган). Добрых вынікаў дабіліся барцы (старшы трэнер М. Мірскі). Прычым, найбольш вызначыўся малады беларускі спартсмен Алег Караваеў. У фінальнай сустрэчы ён перамог майстра спорту Вырупаева і стаў чэмпіёнам Спартакіяды народаў СССР у лягчэйшай вазе. Вельмі характэрна і тое, што такі параўнальна малады від спорту, як веслярны, за апошні час значна прасунуўся наперад. Беларускія весляры занялі шостае месца. У час спаборніцтваў 4 беларускія спартсмены заваявалі званні чэмпіёнаў краіны і пераможцаў Спартакіяды.

Мінчанін Яўген Новікаў устанавіў у сваёй вазе новы ўсесаюзны рэкорд па штанзе. Устаноўлена многа рэспубліканскіх рэкордаў. Каля дваццаці спартсменаў сталі майстрамі спорту. Гэта гаворыць аб тым, што моладзь упарта штурмуе спартыўныя рэкорды.

Аднак нельга закрываць вочы на рад недахопаў у спартыўнай рабоце нашай рэспублікі, якія выявіла Спартакіяда.

Рэспубліка не выставіла ўдзельнікаў у конным спорце і атрымала нуль ачкоў. А хіба нельга было падрыхтаваць спартсменаў-коннікаў? Гомельскі і Гродзенскі абласныя камітэты па справах фізкультуры і спорту маглі-б пры жаданні падрыхтаваць спартсменаў-коннікаў.

Дрэнна ідзе ў рэспубліцы падрыхтоўка сучасных пяціборцаў. Праўда, ад Беларусі каманда пяціборцаў удзельнічала ў Спартакіядзе, але яна не выканала заліковых патрабаванняў праграмы Спартакіяды і атрымала нуль ачкоў.

Гэтыя два нулі назад пацягнулі зборную каманду рэспублікі. Не на ўзроўні знаходзяцца і каманды баскетбалістаў і тэнісістаў рэспублікі.

На здымках: злева — **чэмпіён БССР у бегу на 30 кіламетраў электрык трактарнага завода Рыгор Голубеў** (у чырвонай майцы) **на дыстанцыі.** Справа ўверсе — **трэніроўка мужчынскай зборнай каманды па валейболу.** Унізе — **чэмпіён і рэкардсмен БССР па прыжках у даўжыню з разбегу Уладзімір Іваноў, які на Спартакіядзе народаў СССР устанавіў новы рэкорд БССР у трайным прыжку.** Уверсе — **спаборніцтвы па прыжках у ваду.**

Фота А. Дзітлава.



На здымку: **урачысты парад удзельнікаў Спартакіяды.**

Фота Л. Бяляева.

---

ваюць на заводзе цэхам высокай культуры. Станкі-аўтаматы бліхчаць, як новенькія. Чыста памытыя вокны, акуратна падмеценая падлога. Бесперабойна працуе абсталяванне. З месяца ў месяц калектыў цэха перавыконвае вытворчы план па ўсіх паказчыках. Цэх працуе рытмічна, па графіку.

Але ці ўсё зрабілі комсамольцы трактарнага завода?

Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, варта зайсці ў трактарны цэх № 2. Тут вырабляецца каля 200 назваў дэталей да трактара «Беларусь». Няхай, скажам, на некаторы час затрымаецца выпуск хоць адной з іх, і парушыцца рытм працы, спыніцца галоўны канвеер. У цэху — навейшае складанае абсталяванне, першакласная тэхніка. І крыўдна робіцца за комсамольцаў — а іх тут каля 300 чалавек,—калі ідзеш па цэху. Па ўсёй тэрыторыі раскіданы сотні дэталей, розным смеццем забруджаны праходы. У канцы змены металічнай стружкі набіраецца столькі, што не відаць і станкоў.

Нярэдка можна наглядаць такі малюнак: уключыў малады рабочы станок, а сам — «на перакур». Раптам чуецца страшэнны скрыгат, і станок, які каштуе сотні тысяч рублёў, выходзіць са строю.

Вялікім злом стаў тут брак. Часта галоўны канвеер прастойвае гадзінамі з-за таго, што карпусы задніх мастоў паступаюць з дэфектамі — з недарэзанымі і змешчанымі адтулінамі, заломанымі метчыкамі. Даводзіцца зноў дарабляць дэталі. За гэты час можна было-б сабраць дадаткова 2—3 масты.

Можа, тут няма перадавікоў, наватараў, паборнікаў высокай культуры? Ёсць, і нямала. Пераважная частка моладзі працуе добра. Але комсамольская арганізацыя і сакратар цэхавага бюро Іван Вятоха змірыліся з брудам, не заўважаюць выпадкаў парушэння тэхналогіі, браку і паломкі станкоў.

У выніку выходзіць са строю абсталяванне, зніжаецца прадукцыйнасць працы. Пыл і бруд шкодзяць здароўю моладзі.

Дзіўна, што з гэтым змірыліся ў заводскім камітэце комсамола. Распачаўшы карысную, выдатную справу, члены камітэта і яго сакратар Уладзімір Тамашчук хутка забыліся аб ёй, аслабілі работу, перасталі цікавіцца пытаннямі ўкаранення высокай культуры на вытворчасці.

— Цяпер нам не да гэтага,— апраўдваюцца ў камітэце комсамола,— іншых спраў многа: фестываль, спартакіяда...

Слоў няма. Важная справа і фестываль і спартакіяда. Але нельга забываць, што барацьба за высокую культуру — не часовая кампанія. Ёю трэба займацца штодзённа.

...Калі ўваходзіш на тэрыторыю трактарнага завода, першае, што кідаецца ў вочы,— кветкі. Іх многа. Чырвоныя, ружовыя, сінія. Шумяць маладыя дрэўцы, любоўна пасаджаныя вакол цэнтральнай алеі. Усё гэта зроблена руплівымі маладымі рукамі. І тым больш крыўдна робіцца, калі бачыш, як тут-жа, непадалёку, валяецца металічная стружка, ля цэхаў — груды непатрэбнага металу. У многіх цэхах брудна, абшарпаныя сцены, чорныя вокны.

Хочацца спытаць у комсамольцаў трактарнага цэха № 1 і 2 чыгунна-ліцейнага, маторнага і некаторых іншых:— Чаму вы мірыцеся з бескультур'ем, чаму праходзіце міма марнатраўства, браку, усяго таго, што перашкаджае моладзі па-баявому змагацца за тэхнічны прагрэс?





**Так выглядае аўтаматны цэх** (злева). **А гэта — участак задняга маста трактарнага цэха № 1.**



Якуб КОЛАС.

3 лістапада 1882 года — 13 жніўня 1956 года.

## У ЛІТАРАТАРАЎ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

Літаратурныя вечары на прадпрыемствах, у школах і ўстановах бюро нашага літаратурнага аб'еднання наладжвае даволі часта. З чытаннем уласных твораў пачынаючыя пісьменнікі выступалі перад выхаванцамі Новабеліцкага спецыяльнага дзіцячага дома № 2, перад вучнямі 3-й і 12-й сярэдніх школ Гомеля, перад рабочымі трыкатажнай фабрыкі імя 8 сакавіка, завода «Гомсельмаш», перад мікрафонам абласнога радыёвузла.

Для чытання, звычайна, мы падбіраем такія творы, якія з'яўляюцца найбольш блізкімі аўдыторыі па тэме і зместу. Напрыклад, выхаванцам дзіцячага дома № 2 і вучням гарадскіх школ мы чыталі творы аб школе, аб дзяцінстве, аб цікавых падарожжах па роднаму краю. Рабочыя «Гомсельмаша» з вялікай увагай слухалі вершы заводскіх паэтаў, членаў літаратурнага аб'еднання Браніслава Спрынчана і Міхаіла Буткевіча аб працоўных буднях сваіх сяброў.

Цяпер у складзе нашага літаб'еднання налічваецца 30 чалавек творчай моладзі, якая ў меру сваіх сіл і здольнасцей імкнецца паказваць у мастацкіх творах наша цудоўнае сённяшняе жыццё, расказваць чытачам аб душэўным харастве савецкага чалавека. Сярод удзельнікаў аб'еднання — рабочыя, студэнты, настаўнікі, калгаснікі.

Імя маладога паэта Браніслава Спрынчана ўжо даволі шырока вядома нашым чытачам з рэспубліканскага друку. Нядаўна Б. Спрынчан быў прыняты ў члены Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. Ён падрыхтаваў да друку зборнік вершаў «Родной завод». Маладому паэту не трэба выдумваць герояў сваіх паэтычных твораў: гэта людзі, якіх ён выдатна ведае, з якімі сустракаецца кожны дзень на працы, у жыцці.

Час-ад-часу з'яўляюцца ў друку вершы студэнта апошняга курса Гомельскага педінстытута Васіля Клімянкова. Лірычны герой вершаў В. Клімянкова — юнак, перад вачыма якога раскрыты непаўторны свет нашай сучаснасці.

Рабочы камсамольскай будоўлі — завода жалезабетонных вырабаў Алесь Кузняцоў піша байкі, у якіх высмейвае бюракратаў, гультаёў і падхалімаў, а студэнт Гомельскага педінстытута Васіль Патапенка спрабуе сілы ў лірычных і сатырычных вершах.

Апавяданні аб простых савецкіх людзях пішуць настаўнік Бронніцкай сярэдняй школы Буда-Кашалёўскага раёна Аляксей Кейзеру і суддзя народнага суда горада Рэчыцы Аляксандр Капусцін. Абодва яны ў мінулым годзе ўдзельнічалі ў рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў.

Мясцовы рускі абласны драматычны тэатр працуе з маладым драматургам, журналістам Грыгорыем Разінскім над пастаноўкай яго п'есы «Залатыя рукі».

Творча актыўна працуюць члены нашага аб'еднання Ц. Кажамякін, Ф. Аднавочка, Г. Капцелаў, М. Клімовіч, У. Лазько, М. Лапуста, І. Байкоў і многія іншыя. Значную дапамогу нам аказваюць выкладчыкі Гомельскага педінстытута, кандыдаты філалагічных навук Я. Міхалап, П. Ахрыменка, Л. Цімашкова. У літаб'еднанні наладжана творчая вучоба па тэорыі літаратуры. Для членаў аб'еднання, напрыклад, былі прачытаны лекцыі: «Аб спецыфіцы мастацкай літаратуры», «Нарыс», «Мастацкая дэталь у творы».

Лепшыя творы пачынаючых пісьменнікаў змяшчаюцца на старонках абласной газеты «Гомельская праўда». А ўдзельнікі творчага гуртка, які створаны ў педінстытуце, выпускаюць рукапісны часопіс «Юнацтва». Рэгулярна «Літаратурныя старонкі» друкуе шматтыражка «Сельмашавец».

Увазе чытачоў у гэтым нумары прапануюцца апавяданне М. Лапусты, вершы В. Клімянкова і І. Цімашкова, нарыс Ул. Клімянкова.

**Міхась ДАНІЛЕНКА,**
старшыня бюро Гомельскага літаб'еднання.



# На тонях

**Мікалай ЛАПУСТА**

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

I

Вясна наступіла рана. Імклівая плынь хутка паламала на Прыпяці лёд. Рака за два дні вышла з берагоў, затапіла навакольныя лугі. Дні былі сонечныя, але ветраныя, ночы — халодныя, з ранішнім лядком. Начамі ў зорным небе свісталі крыллямі качкі, курлыкалі журавы. Птушкі спяшаліся да родных месц.

На незатопленай вадой градзе члены калгаснай рыбалавецкай брыгады ладзілі невад, канапацілі лодку, якая рассохлася за зіму. Рыбакі рыхтаваліся да веснавой пуціны.

— Будзе вялікая вада,— намотваючы на вілкі тоўстую пяньковую нітку, заўважыў вусаты рыбак.

— З чаго ты гэта ўзяў, дзядзька Апанас?— недаверліва ўзняў на яго вочы чарнявы з абветраным тварам хлопец.

— Прыкмячаць трэба, Міша. Вы, моладзь, у школах вучыліся, розныя навукі прайшлі, а такой простай справы не ведаеце,—пачаў злавацца Апанас.— Сарокі вунь робяць гнёзды высока — баяцца, каб іх вадой не дастала.

— Ну, гэта яшчэ не довад,— умяшаўся ў гутарку вяснушкаваты і кірпаты Сеня.

— Будзе табе довад, калі рыбы на плёсе не знойдзеш. Лепш-бы прывязваў камяні, рыбак новаспечаны,— ужо зусім раззлаваўся дзядзька Апанас і, кульгаючы, пайшоў лапіць у невадзе куль.

Хлопцы, ведаючы сварлівы і ўпарты характар свайго брыгадзіра, змоўклі, і кожны заняўся сваёй справай.

Пасля гэтай размовы Апанас Ільіч ніяк не мог супакоіцца. Ён у душы праклінаў сябе за тое, што даў згоду кіраваць брыгадай маладых рыбакоў, злаваўся на сваю жонку за слабыя ніткі, якія часта рваліся ў яго моцных руках.

Невад быў не новы, з многімі дзіркамі, якія засталіся пасля падлёднага лову. Апанас Ільіч вырашыў пасля рамонту высмаліць яго, замяніць старыя вяроўкі, прывязаць новыя паплаўкі. Хлопцы, чаго не чакаў стары рыбак, працавалі добра, і да абеду невад быў агледжаны. Апанас дазволіў ім ісці дамоў, а сам застаўся канапаціць лодку. Гэтай работы маладым рыбакам ён не давяраў.

Перад вечарам вецер заціх, угаманіліся хвалі. Шырокая гладзь Прыпяці пакрылася лёгкім туманам. Апанас склаў у торбу малаток, абцугі, ніткі і ўжо сабраўся ісці дадому. Раптам за карчамі, у напрамку Бабровага рогу, грымнулі дуплетам два стрэлы, праз мінуту яшчэ адзін. Па веснавой паводцы пакацілася шматгалосае рэха. Над галавой Апанаса з шумам праляцелі напуджаныя качкі.

«Хто-б гэта мог так рана паляванне пачынаць?» — губляўся ў здагадках стары рыбак, працаўнік усялякага бракан'ерства.

Загадка хутка высветлілася. З-за грады з'явіўся лёгкі вярбовы човен. Веславым, які спрытна кіраваў душагубкай, быў вясковы весялун, закаранелы бракан'ер Пецька Бачура.

— Добры вечар, цесць! — весела крыкнуў той, параўняўшыся з рыбачым станам.

— Цюцьку рудому зяць, а не мне,— злосна буркнуў Апанас, убачыўшы на дне чоўна тры забітыя качкі.

Грубы адказ дзядзькі Апанаса не парушыў вясёлага настрою Пецькі.

II

Апанас і пецькаў бацька Рыгор у маладосці былі дружбакамі. Дзіўная гэта была дружба. Першы — злопамятлівы і ўпарты, але сумленны, другі—вясёлы балагур, не чысты на руку. Разам рыбачылі, разам хадзілі на паляванне. Але дружба нечакана парвалася і хутка ператварылася ў варожасць. Прычынай было каханне.

Пасяліўся ў Ракітным бедны землямер, які вышаў у адстаўку. Пабудаваў сабе над ракою маленькую хатку і перавёз аднекуль з Украіны сваю невялікую сям'ю — жонку ды дачку. Прыгожая была дачка ў землямера. Чорныя косы з уплецenымі вішнёвымі стужкамі, вочы васільковыя, на шчоках ямачкі. Вясёлая, гаманкая, галасістая, яна да таго-ж добра іграла на гітары. Каля яе маленькай хаткі, пад вербамі на беразе ракі, пачалі збірацца вечарынкі. Кацярына іграла на гітары, дзяўчаты спявалі украінскія і беларускія песні, вадзілі карагоды. Да поўночы не сціхалі над Прыпяццю вясёлыя галасы.

Апанас, якога Кацярына называла па-украінску Паньком, са сваім гармонікам пайшоў у адстаўку. За вясну закружыла Кацярына чубатыя галовы ўсім вясковым хлопцам. Уздыхалі, небаракі, не ведалі, як падступіцца да гордай дзяўчыны. Не разгубіўся толькі Апанас. Неяк ён папрасіў Кацярыну навучыць яго іграць на гітары. Тая ахвотна згадзілася. Апанас стаў часта бываць у доміку землямера. Але вучоба не ладзілася. Ды і не спяшаўся Апанас — не музыка яго хвалявала. Навучыўся іграць «Сонцэ нізэнько, вечор блізэнько» і далей гэтага вучоба не пайшла. Апанас больш глядзеў на кацярыніны бровы, чым на гітару.

Кацярына брала з яго рук гітару і, таямніча бліскаючы вачыма, спявала вясёлую песеньку:

«Апанас валы пас, Кацярына — козы...».

Нічога не мог зразумець Апанас — кахае дзяўчына ці смяецца з яго. Аднак хутка зразумеў. У нядзелю позна затрымаўся на рыбнай лоўлі, у глыбокую поўнач падышоў да доміка землямера. Пад вербамі, на старым бервяне, дзе звычайна збіралася моладзь, сядзела запозненая парачка.

«Хто-ж гэта, пабачыць-бы?» — падумаў Апанас і прытаіўся за вярбой.

— Любы мой, каханы Грыцко,— пачуў Апанас пявучы кацярынін голас. Дзяўчына гладзіла рукою русыя кучары яго сябрука.

«Вось табе і Апанас валы пас»,— пахаладзела сэрца ў рыбака. Ён ціха спусціўся з кручы, сеў у човен і да раніцы плаваў па рацэ.

Назаўтра на вячоркі Апанас прышоў п'яны. Без віны прычапіўся да аднаго хлопца. Узнікла бойка. Рыгор кінуўся разводзіць іх. Злаўчыўшыся, Апанас моцна ўдарыў Рыгора па вуху, а другім заходам разбіў у кроў нос. Рыгор ускіпеў, выцягнуў з плота частаколіну і ўдарыў свайго дружбака па твары.

Так скончылася дружба. Апанаса панеслі дамоў на руках. У яго была рассечана верхняя губа. Губа зраслася няхораша — застаўся чырвоны рубец. Каб закрыць яго, Апанас запусціў густыя вусы, і з таго часу брытва ні разу не дакранулася да іх.

Восенню Апанаса прызвалі ў армію, а Рыгор ажаніўся з Кацярынай. Толькі праз тры гады вярнуўся Апанас у роднае Ракітнае. За Кацярынай ужо бегаў смуглы кучаравы хлопчык. Нядобрае пачуў Апанас пра кацярынінага мужа. Рыгор пасябраваў з кулакамі, стаў канакрадам. Аднавяскоўцы не раз бачылі яго з абрэзам.

Апанас у арміі стаў зусім іншым хлопцам, падвучыўся. Быў час калектывізацыі. Ён першы ўступіў у калгас і хутка ажаніўся з ціхай і даверлівай дзяўчынай, сваёй суседкай, якая ўвесь час чакала яго з арміі.

Рыгор пабудаваў сабе вялікі пяцісценны дом на водшыбе вёскі. Таму яго і празвалі «канцавым». Да яго часта прыязджалі невядомыя людзі.

Аднойчы з пашы знікла пара лепшых калгасных коней. Апанас з двума калгаснікамі высачыў след і знайшоў коней. Яны стаялі прывязанымі ў лесе. Тут-жа, пад карчом, спаў Рыгор. Даўняя злосць закіпела з новай сілай. Апанас пачаў вязаць соннага канакрада, але той рвануўся, выхапіў з-пад кажуха абрэз і, не цэлячыся, стрэліў. Сам уцёк. Куля прабіла Апанасу нагу ніжэй калена. Ён стаў кульгаць. Рыгора злавілі праз поўгода, судзілі. З таго часу ён як у ваду кануў.

III

Многа з той пары вады сплыло па Прыпяці. Апанас так і не забыў крыўды, якую нанёс яму Рыгор, не памерла ў сэрцы і каханне да Кацярыны. Дружна пражыў Апанас гэтыя гады з жонкай, але пры сустрэчы з Кацярынаю сэрца яго кожны раз напаўнялася ціхім смуткам. Пасля жаніцьбы жонка нарадзіла яму дачку. Апанас назваў яе Кацярынай.

Ціха жыла рыгорава Кацярына, аддаючы ўсе сілы выхаванню Пецькі. Яна па-ранейшаму жыла на водшыбе вёскі, старанна працавала ў калгасе. Нічога дрэннага не маглі сказаць аб ёй людзі. Пецька вырас без бацькі, ён нават яго не памятаў. Рост у яго быў бацькаў, а смуглы твар і васількова вочы — матчыны.

У шаснаццаць год ён кінуў вучобу, нават не скончыўшы васьмі класаў. Купіў сабе стрэльбу. Паляваў, калі ўздумаецца—круглы год. З таго часу пачаў і рыбачыць. Хутка ў рыбацкай справе ён перасягнуў нават вопытных рыбакоў. Удала ён мог падбіраць месцы пад жакі, першым выяўляў і аблоўліваў вясною нерасты.

Асабліва любіў ён глушыць рыбу толам. Для гэтай мэты ён разбіраў нямецкія міны, снарады. І аднойчы яму не пашанцавала: узарваўся ў руках капсуль. Выбухам адарвала яму на правай руцэ два пальцы. Да вясковай мянушкі «канцавы» дабавілася яшчэ адна — «куцалапы».

Глушыць рыбу, аднак, ён не кінуў. Не раз яго прабавалі злавіць прадстаўнікі рыбнагляду, але Пецька кожны раз на сваім лёгкім чоўне ўцякаў ад іх.

Пецьку не ўзялі ў армію. За свавольства і зухаватасць яго не прынялі ў комсамол. Але на калгаснай працы не было яму роўных. Хлопец паспяваў усюды: да снедання з'ездзіць на рыбу, увесь дзень працуе ў калгасе, а вечарам — верхаводзіць на вечарынцы. Усе выхадкі яму чамусьці даравалiся. Пецьку ўсе любілі.

Толькі адзін Апанас не мог цярпець яго. У ім ён бачыў Рыгора. Пры ўсякім зручным выпадку Апанас асякаў яго — ці то на калгасным сходзе, ці на рыбнай лоўлі. І дзіўна, ведаючы непрыязнасць Апанаса, Пецька ніколі не крыўдзіўся на яго. Гэта злавала Апанаса.

— Не давядзі бог мець нам такога зяця,— гаварыў ён часта жонцы.

У сваёй нянавісці да Пецькі Апанас не заўважаў таго, аб чым гаварыла ўжо ўся вёска. Пецька быў вельмі ўважлівым да апанасавай Кацярыны. Заўсёды на танцах ён выбіраў толькі Кацярыну, іх часта можна было бачыць летнімі вечарамі пад вербамі над Прыпяццю. Дзяўчыне падабаўся вясёлы хлопец.

Ішлі дні. Як і многа год назад, Апанас вяртаўся апоўначы з рыбнай лоўлі. Пад вербамі, дзе раней быў домік землямера, ён спыніўся, каб прыкурыць люльку.

— Мілы мой, ненаглядны!—пачуў ён з-за вербаў голас сваёй дачкі і звонкі пацалунак.

Апанас аслупянеў. Не задумваючыся, ён наляцеў на дачку, рвануў яе за касу.

— Вон дадому, нявеста. А ты... а ты... каб і нагі твае тут не было,— не валодаючы сабою, крычаў Апанас.

Перапалоханая грубасцю бацькі, Кацярына стаяла і ціха плакала. А Пецька толькі і змог сказаць:

— Эх... дзядзька Апанас!

Праз тыдзень Пецька даведаўся, што разгневаны Апанас адправіў Кацярыну ў Мазыр да сваёй сястры і што яна там паступіла на працу.

Больш васьмі месяцаў не бачыў Апанас дачкі, сумаваў па ёй, але прыязджаць дадому не дазваляў. Затое Пецька па прычыне і без прычыны часта ездзіў у Мазыр і пры сустрэчы з Апанасам велічаў яго цесцем.



IV

Трывожна сёння спалася Апанасу. Ён сніў Рыгора. Той дражніў яго: «А ўсё-ж Пецька будзе тваім зяцем... А ўсё-ж Пецька будзе тваім зяцем...» Апанас крычаў яму: «Не! Не!» Гэтае адзінае слова так цяжка было вымаўляць, што ён напружваў усе сілы.

Прачнуўся стары з халодным потам на ілбе. Абуўся. Вышаў на двор. Світала. За ноч вада ў рацэ яшчэ паднялася на поўметра. Вецер, які заціхаў увечары, раніцай дзьмуў з новай сілай. На Прыпяці ўзнімаліся вялікія пеністыя буруны.

Пасля снедання ўсе члены брыгады сабраліся на стан смаліць невад. У вялікім катле кіпела змешаная з дзёгцем смала. Апанас сустрэў хлопцаў ласказа, даў кожнаму працу. Для зручнасці невад развесілі поўкругам. Хлопцы не шкадавалі смалы, густа змазвалі ёю невад. І ўсё-ж Апанас знаходзіў «недасмолы», папраўляў іх без дакораў. Адначасова высмалілі і лодку.

Больш тыдня не сціхаў вецер. Невад высах, а рыбачыць было рызыкоўна. На шырокім разліве ўздымаліся паўтараметровыя хвалі. Хлопцам не цярпелася выехаць на тоні, але брыгадзір спакойна чакаў лепшага надвор'я.

Іван ЦІМАШКОЎ

**АСТРАЎКІ**

Кожны мае добра на прыкмеце
Свой куток любімы ці куткі.
Ну, а мне найлепшая на свеце
Прыстань, што завецца Астраўкі.

Ля яе няма дэбаркадэра,
Тут прычал звычайны на Сажы,
Дзе па трапу вузкаму на бераг
Сыйдзе з парахода пасажыр.

Прад вачыма — простая карціна:
Чыстая, шырокая рака,
Бакеншчыка сціплая хаціна,
Побач з ёю — хата лесніка.

Не патрапіш блізка тут да чайнай,
Стол твой — аксамітная трава.
Чым-жа асаблівым, незвычайным
Гэты вось куток прычараваў?

Вабіць ён бясконца шчупакамі,
Плоткай, акунямі, белізной,
Сочнымі суніцамі, дубамі,
Стромкай карабельнаю сасной.

Берагі — карпацкае прадгор'е,
Пляж — любой сталіцы падары.
Тут табе і рыжскае узмор'е,
Сочы, і Друскенікі, і Крым.

Ды расказваць многага не стану,
А скажу апошняе адно,
Што прыдатны быў-бы Левітану
Гэты вось куток на палатно.

І калі вам хочацца прыгожа
Адпачыць ля ціхае ракі,
Прыязджайце на ўзбярэжжа Сожа,
Без пуцёўкі, проста ў Астраўкі.

Пецька вечарамі хадзіў на балота. Сюды залятaлі на жыроўку качкі. Дамоў заўсёды вяртаўся абвешаны крыжакамі, чыркамі. Ён не цаніў сваёй здабычы. Па дарозе аддаваў дзве—тры качкі трактарыстам, калі Апанаса не было дома, заносіў лепшую качку сваёй будучай цёшчы — цётцы Ганне. Тая ахвотна прымала падарунак, адчуваючы з кожным днём усё большую прыхільнасць да хлопца, які пакахаў яе дачку.

...Вецер нечакана сціх, і брыгада выехала на раку выпрабаваць рыбацкае шчасце. Хлопцы веславалі дружна. Апанас сядзеў на рулі з вялікім вяслом і дыміў люлькай.

— Вось тут і пачнем,— сказаў брыгадзір, аглядаючы Бабровы рог. Але рога ўжо не было. Усё затапіла вада. Засталася невялікая грыва зямлі з прыплавам на берагах.

— Прыкід будзем рабіць? — спытаў заклапочана ў брыгадзіра Міша.

— Так. Прытоніць рог нельга. На процілеглай грыве глыбока, вады ў боты набраць можна.

На бераг вышлі Міша Бобр і Мікалай Бараш. Апанас падаў ім звязак вяроўкі і канец з цяжкай дубовай баркай. Хлопцы, якія засталіся ў лодцы, выкідвалі невад. Праз некалькі хвілін невад быў закінуты.

Апанас застаўся ў лодцы адзін. Прывязаўшы пасярэдзіне невада, на месцы куля, лёгкі плюшнікові паплавок, брыгадзір весела крыкнуў:

— Ну, у добры час, хлопцы! — і чамусьці скінуў шапку.

— Эх, пудзікаў-бы тры на першы раз,— не сцярпеў вяснушкаваты Сеня.

Брыгадзір непрыхільна паглядзеў на хлопца, але нічога не сказаў. Хлопцы, ведаючы прымхі старых рыбакоў, якія не любяць загадваць улоў, зарагаталі.

Цягнулі невад моўчкі. Вось сышліся канцы яго, і хлопцы захваляваліся. Можна было заўважыць, што хваляваўся і Апанас — была першая вясновая тоня. У кулі аказалася толькі адна сіняя гусцёрка. Рыбакі стаялі моўчкі, апусціўшы галовы.

— І была тая рыбка не прастая, а залатая,— парушыў першым маўчанне той-жа самы Сеня.

Апанас асцярожна ўзяў у рукі плоскую гусцёрку і пусціў назад у ваду. Так патрабуе рыбацкі звычай: адну рыбку з першага ўлову пускаць на волю.

За дзень рыбакі восем разоў закідвалі невад. Улову не было. У засецы, спецыяльна зробленай для рыбы, ляжала толькі некалькі гусцёрак і краснапёрых плотак.

У час апошняга закіду, перад захадам сонца, да стомленых і прамоклых хлопцаў пад'ехаў Пецька. У яго востраносым чоўне пад рукой ляжала двухствольная стрэльба, а ў карме — вялікі кош.

Агледзеўшы брыгадны ўлоў, Пецька іранічна заўважыў:

— У лядоўню будзеце класці ці на рыбазавод адправіце?

— А як у цябе? — не заўважаючы насмешкі, заглядвалі ў пецькаў човен рыбакі.—Паказвай.

— Па колькасці, як і ў вас, ды вось якасцю лепшая,— даймаў хлопцаў рыбак-адзіночка.

Кош быў повен шчупакоў. Верхнія яшчэ раскрывалі жабры, прагна хапаючы паветра.

— Гэтага,— ён паказаў на вялікага, кілаграмы на чатыры шчупака,— са стрэльбы забіў, два зарады страціў, астатніх — жакамі,— хваліўся Пецька.

— Дзе-ж гэта ты? — дапытваліся хлопцы, не хаваючы зайздрасці.

— А там, дзе вам не рыбачыць.

Апанас рабіў выгляд, што не чуе гэтай размовы. Ён маўкліва ўкладваў у лодку невад. Па праву брыгадзіра ён мог канфіскаваць у Пецькі злоўленую несумленным шляхам рыбу, паколькі лоўля яе жакамі для ўласнай мэты забараняецца. Мог таксама забраць і жакі. Але адважыцца на гэта не мог. У вёсцы многія калгаснікі, як і Пецька, мелі і сеткі і жакі. Канфіскаваць іх трэба было-б ва ўсіх. Зрабіць гэта Апанас баяўся, не хацеў настройваць супраць сябе калгаснікаў.



Пецька гаварыў праўду. Там, дзе ён рыбачыў, брыгадным рыбакам рабіць не было чаго. Рыба ішла ў карчы, затопленыя вадою, трымалася месцаў з хуткай плынню. Нават першыя ляшчы, якіх рыбакі называюць «вярбовікамі», аднерасціліся ў такім бураломе, што прытоніць там невад рыбакі нават і не думалі.

Не ішла рыба і ў лугавыя зарогі, якія пачалі вызначацца пасля спаду вады. Каб сабраць кош рыбы для адпраўкі на рыбазавод, прыходзілася рыбачыць па два—тры дні.

Нягледзячы на слабы ўлоў, рыбакі штодзённа выязджалі на тоню, затрымліваліся на рацэ да поўночы. Апанас злаваўся, калі хлопцы, ахалоджаныя няўдачамі, пратэставалі супраць штодзённай цяжкай працы.

Вада спадала павольна. Аднак у пачатку мая ўжо зазелянела маладая траўка на лугавых градах. Тут дзелавіта паходжвалі на тонкіх і высокіх ножках дзюбастыя кулікі, весела крычалі неўгамонныя кнігаўкі.

Пасля доўгіх няўдач члены брыгады адчулі сапраўднае рыбацкае шчасце. За тры прыкіды вылавілі каля двух цэнтнераў рыбы. Засек у лодцы быў запоўнены буйнымі плоткамі, язямі, ляшчамі. Апанас ад радасці весела смактаў люльку ды без патрэбы круціў вусы.

— Паедзем раней дадому, каб кіеўскім параходам адправіць рыбу,— аб'явіў ён маладым рыбакам.— Налягай, хлопцы, на вёслы.

Узрадаваныя рыбакі не шкадавалі сіл. Лодка хутка плыла між карчаватых вербаў. Дапамагала яшчэ імклівая плынь, што перакатвалася праз граду ў возера Баравое. Апанас хацеў выбіць з люлькі попел, ды нейк нязручна перамяніў з рукі ў руку вясло. Яно выпала і паплыло. Лодка ў гэты час наляцела на корч. Вялікі сук, што тырчаў з вады, зачапіўся за борт. Гэта на хвіліну затрымала лодку, а пасля закруціла бартом да плыні. Забурліла, заклекатала ля борта вада, і хлопцы не паспелі апамятацца, як лодка перакулілася. Усе пападалі ў ваду. На шчасце на перакаце было мелка. Але рыбакі прамоклі да ніткі, не дапамаглі і брызентавыя касцюмы. Вылезшы першым на бераг, Сеня Бобр пачаў крычаць аб дапамозе, спадзеючыся, што яго пачуюць аднавяскоўцы, якія звычайна ў гэты час ставілі жакі.

Апанас так паглядзеў на Сеню, што таму адпала ахвота крычаць. Стары рыбак хацеў утаіць сваю ганьбу ад калгаснікаў.

Лодку прыбіла да берага. Рыбакі выцягнулі яе, адлілі ваду. Сабралі вёслы, выцягнулі з вады і невад. Аднак доўга прышлося збіраць рыбу. Плынню яе вынесла на возера. Многа язёў і плотак, вылаўленых апошнім прыкідам, уцякло ў родную стыхію. Прыехалі на стан вечарам. Запакавалі ў кашы рыбу і паклалі ў лядоўню. Адыходзячы дамоў, Апанас папярэдзіў хлопцаў:

— Аб купанні нікому ні слова. Зразумелі?

Ранняе купанне дало сябе адчуць. Ноччу ў Апанаса пачалася гарачка, балюча заныла прастрэленая нага. Не дапамагла выпітая вечарам чарка самагонкі і гарачая ляжанка. На душы было цяжка. Апанас балюча перажываў дапушчаную днём памылку. Назаўтра раніцай ён не мог падняцца з ложка. Хлопцы паехалі рыбачыць без брыгадзіра.

Дарэмна стараўся Апанас утаіць сваю хваробу. Аб ёй ужо




**Ці абавязкова рабіць доўгія, знясільваючыя падарожжы на аўтамашынах, цягніках ці караблях? Ці не можна, седзячы ў пакоі або лежачы пад духмянай яблыняй, рабіць захапляючыя падарожжы па свеце? Можна, кажам мы. На гэтае падарожжа не трэба шмат грошай, часу, а між тым вы можаце пабываць у любой краіне. Больш таго, за некалькі хвілін вы можаце пабываць у трох—пяці краінах. Дык вось, пачынаем падарожжа па свеце, сябры! Наш рэактыўны звышхуткасны самалёт, на які можа сесці не адзін дзесятак людзей, гатовы да вылету.**

**Заведзены маторы. Узлёт. Прамільгнулі горы, даліны, мора. Што гэта? Замаруджваем хуткасць. Унізе Грэнландыя. Поўночная Атлантыка. Падобныя на небаскробы плаваюць айсбергі — вялізныя ільдзіны. На пярэднім плане эскімоскае паселішча Сід-Кап. Калі хто хоча больш падрабязна азнаёміцца з гэтай краінай, калі ласка. У наступным нумары мы можам зрабіць тут прыпынак. Напішыце нам толькі пра гэта.** **А пакуль наперад, на старонку 9.**



ведалі ўсе калгаснікі. У абед да Апанаса зайшоў малады доктар Вера Іванаўна.

— На што скардзіцеся, Апанас Ільіч? — спытала яна ласкавым голасам.

— На сваю дурасць.

— Такой хваробы за вамі не заўважалася.

— Дык учора з'явілася,—неахвотна прамовіў Апанас перасохлымі губамі.

— Вас трэба пакласці ў бальніцу,— сказала Вера Іванаўна пасля агляду.

— Нікуды не паеду,— адказаў хворы.— Нікуды!

Вера Іванаўна штосьці ціха гаварыла жонцы Апанаса, відаць, раіла, як даглядаць хворага. Апанас паглядзеў у іх бок і здзівіўся: да чаго-ж Вера Іванаўна падобная на яго Кацярыну! І ён хваравіта адчуў адсутнасць дачкі. Яна зараз даглядала-б хворага бацьку, ласкава шчабятала-б ля яго.

Вера Іванаўна наведвала хворага кожны дзень. Рыбак быў расчулены ўважлівасцю маладога доктара і давяраў яму. На чацвёрты дзень Вера Іванаўна прышла разам з старшынёй калгаса Раманам Якімавічам Шацілам.

Старшыня пагутарыў аб хваробе рыбака, а пасля далікатна запытаў яго:

— Каго, Апанас Ільіч, на тваю думку, можна было-б часова прызначыць брыгадзірам рыбакоў?

— Чаму часова? Можна назаўсёды.

— Папраўшся, не я, а калгаснікі прымусяць цябе вярнуцца ў брыгаду. Ты іх выбарны.

Апанас высока цаніў давер'е аднавяскоўцаў і ў душы ганарыўся гэтым. Пытанне старшыні азадачыла яго. Брыгаду, хоць і часова, трэба перадаць у надзейныя рукі. Час адказны — не ўпусціцьбы багатага ўлову. У роздуме Апанас адарваў кавалак газеты для папяросы, дастаў махорку. Раман Якімавіч выцягнуў з кішэні і падаў Апанасу яго люльку, якую ён згубіў у час купання.

— Па-мойму, нядрэнна было-б Пецьку прызначыць,— не дачакаўшыся адказу, прапанаваў старшыня.— Так сказаць, у парадку выпрабавання.

Апанас нахмурыўся, але пярэчыць не стаў.

— Табе відней, Раман Якімавіч.

Пажадаўшы хутчэй ачуняць, старшыня развітаўся.

— Каго-ж дзякаваць за люльку?

— Пецьку,— спыніўся ў дзвярах старшыня.— У Баравым вылавіў ды саромеўся сам занесці.

V

Пецька стаяў ля насценнай газеты «За ўраджай» і трэці раз перачытваў допіс «Багаты ўлоў». Допіс быў напісаны проста і нават пераўвялічана, як здавалася Пецьку.

«...Учора ў нашых рыбакоў быў асабліва багаты ўлоў. За дзень яны выканалі заданне тыдня. Што забяспечыла поспех?—пісаў сакратар комсамольскай арганізацыі Уладзімір Недачота.— Па прапанове часова выконваючага абавязкі брыгадзіра Пятра Бачуры рыбакі аблавілі возера Стараселле, дзе ні разу да гэтага не прытоньваўся невад...»

Гэта была сапраўды незвычайная лоўля. Стараселле было рыбным возерам. Але рыбу лавілі ракіцяне тут толькі дробнымі прыладамі — жакамі, сеткамі-ражоўкамі, вудамі. Прытоніць невад ніхто не адважваўся — на дне возера ляжалі векавыя дубы,— учэпістыя карагі. Пецька напамяць ведаў размяшчэнне іх і падбухторыў хлопцаў на рызыкоўную справу. Перад лоўляй рыбакі пратралілі возера цяжкай вяроўкай, паставілі на «чэпах» вехі. Цягнулі невад павольна. Перад кожнай вехай Пецька, як рулявы, прыўзнімаў невад, пераносіў яго праз небяспечнае месца. Поўную лодку рыбы нагрузілі хлопцы гэты раз. У накладной для адпраўкі ўлову на рыбазавод Пецька запісаў — 540 кілаграмаў.

На рыбацкі стан прыкавыляў Апанас. Гарачка ў яго прайшла, але хадзіў ён з кійком — усё яшчэ балела нага. Дапамог адсартаваць рыбу, лепш скласці яе ў кашы. Хлопцы хацелі пачуць скупую пахвалу старога рыбака. Але Апанас нават папракнуў іх за некалькі дробных дзірак у невадзе, якіх яны не паспелі залатаць.

— Праз тыдзень папраўлюся,— паабяцаў ён, адыходзячы.

...Зноў на рулі сядзіць Апанас, дымячы неразлучнай люлькай. У брыгадзе адбыліся некаторыя змены. Пайшоў у паляводчую брыгаду Алесь Новік.

— Няма ў мяне схільнасці да рыбацкай справы,— прызнаўся ён.

На яго месцы застаўся Пецька. Не ставіў ён больш вечарамі свае жакі, не ішоў раніцай трусіць іх. Як толькі перайшоў у брыгаду, высушыў жакі, абабраў з іх чэпкую рачную ціну, паклаў пад павець.

Удалымі былі чэрвеньскія дні. Рыбакі штодзённа адпраўлялі на рыбазавод па два—тры кашы рыбы. Калі зацвіла каліна, уловы яшчэ павялічыліся. У невад траплялі касякі лянівых з залатым адлівам лінёў. Вечарамі на рацэ добра лавіліся яршы. На стане ў вялікім алюмініевым сагане ўсё часцей варылася трайная юшка. Адведаць яе нярэдка прыходзілі калгаснікі, якія касілі побач на лузе.

Ціхія летам вечары на Прыпяці. Асветленая месячным святлом, вада афарбоўваецца ў залаты колер. З лугу пахне свежым сенам, з ракі павявае прыемнай свежасцю. У гэты час рыбакі чакаюць заходу месяца — пры святле яго рыба не ловіцца.

Цяжка перажываюць хлопцы такія хвіліны. Ім ахвота быць там, пад вербамі, адкуль далятаюць стройныя дзявочыя галасы, бадзёры смех. Пецька прыслухоўваецца, стараецца сярод дзесятка галасоў пачуць знаёмы, блізкі. Дарэмна. Абяцала, ды не едзе. Пецьку робіцца сумна. Уважліва сочыць Апанас за хлопцамі, і паступова панічнае таяць лёд у яго на сэрцы.

Рыбалавецкая брыгада паспяхова выконвала свой план, але праўленне патрабавала яшчэ большых уловаў. Патрэбны былі грошы для будаўніцтва. Праўленне заслухала даклад брыгадзіра. У калгаснай канцылярыі было шумна.

— Улоў прыбавіць нельга,— упарта гаварыў Апанас,— усе месцы аблоўлены.

— Не скупіся, Апанас Ільіч,— заўважыў старшыня калгаса,— знайдзі выхад.

— Падкажыце, парайце, калі ласка, як яго знайсці,— не здаваўся рыбак.

— Ёсць выхад,— падняўся расчырванелы ад хвалявання Пецька.— Днём рыбачыць невадам, а на ноч — ставіць жакі, перамёты.

Ад нечаканага павароту справы Апанас на хвіліну аж разгубіўся. Потым злосна буркнуў:

— Свае ты ў брыгаду жакі аддасі або ў дзядзькі Івана забярэш? — паказаў Апанас пракураным пальцам на пажылога барадатага калгасніка.

— І свае аддам, і дзядзька Іван дасць, калі трэба. Праўда?

Пажылы калгаснік у знак згоды кіўнуў галавой.

Была пара касавіцы. Ніхто з калгаснікаў не ставіў жакоў — і без іх хапала работы. Калгаснікі ахвотна згадзіліся часова перадаць брыгадзе дробныя прылады для лоўлі рыбы.

Уловы непараўнальна павялічыліся. Рыбакі пачалі адпраўляць рыбу на завод два разы ў дзень. Раніцай — злоўленую жакамі, а вечарам — з невада. І ўсё-ж асноўнай прыладай лоўлі заставаўся невад. Апанас прымаў усе меры, каб зберагчы яго. Для тоні выбіраў толькі правераныя месцы. Але хіба можа рыбак ведаць усё тое, што знаходзіцца пад вадой? Праз тыдзень пасля сходу рыбакі цягнулі невад у глыбокім возеры Масцішча. Куль схаваўся пад ваду, толькі былі бачны лябергаў на крылах асобныя паплаўкі. У лодцы Апанас застаўся адзін, час-ад-часу намацваючы вяслом пад вадой верх невада.

— Трымае! — закрычалі з правага берага хлопцы, туга нацягнуўшы вяроўку.

«Трымае» ў рыбакоў значыць, што невад зачапіўся за карагу.

— Адпускай!— камандуе Апанас і бярэ ў рукі багор. Хутка ён знаходзіць месца, дзе зачапіўся невад. Спрабуе прыўзняць невад, каб перакінуць яго праз чапу. Зрабіць гэта не ўдаецца. Невад адцягваюць назад. Дарэмна. Узяло, як зубамі — ні ўперад, ні ўверх, ні назад.

— Парвем вяроўку, можа адпусціць?— раіць з берага Сеня.

Апанас згаджаецца. У лодку садзяцца ўсе хлопцы. Чапляюць багром за ніжнюю вяроўку. Але не такую вяроўку паставіў у невад Апанас, каб можна было яе лёгка парваць.

Брыгадзір нахмурыўся. Застаецца апошні сродак: прывязаць да багра касу і перарэзаць невад папалам.

«Што скажуць калгаснікі за такія адносіны да грамадскага дабра»,— думае Апанас. Але нерашучасць хутка праходзіць.

— Бяжы па касу, Сеня,— загадвае ён.

Пецька паспешліва скідаў адзенне. Заняты сваімі думкамі, Апанас не заўважыў гэтага.

— Куды? Спыніся!— убачыўшы раздзетага Пецьку, закрычаў пабялеўшы брыгадзір.

Але хлопец ужо нырнуў у ваду. Усе замёрлі. У Апанаса прыкметна дрыжалі рукі, пабялеў твар.

«Заблытаецца ў невадзе, адчаянная галава. Глыбока-ж, не менш пяці метраў. Утопіцца і нічым не дапаможаш»...

Бясконца доўга цягнуліся секунды. На паверхню вады вырываліся дробныя бурбалкі, і ў наступіўшай цішыні было чуваць, як яны лопаліся. Пад вадой ішла праца. З палёгкай уздыхнулі ўсе, калі побач з лодкай з'явілася кучаравая галава Пецькі.

— Пад сук тапляка трапіла вяроўка,— паведаміў ён аддыхаўшыся.

Пецька сказаў гэта так спакойна, як быццам гутарка ішла аб чым-небудзь звычайным.

...Развесіўшы невад для прасушкі, рыбакі пайшлі дамоў. Пецька ішоў паўз бераг. Апанас паклікаў яго. Пецька спыніўся. Стары рыбак павольна падышоў. Не падымаючы вачэй, ён ціха прамовіў:

— Прыходзь, Пятро, вечарам да нас. Кацярына прыехала.



Васіль КЛІМЯНКОЎ

## БЯРОЗА

У Дняпры глыбокім пазбіраў
Ранак ясны залатыя зоры.
І на дол бяроза ля Дняпра
Скінула асеннія уборы.

І махнула голаю рукой
Журавам, у высі што ляцелі...

Не сумуй, бяроза, над ракой,
Белай не палохайся мяцелі.

На грудзях аснежанай зямлі
'Шчэ сасніш ты сонечныя былі...
Па табе сумуюць жураўлі
У цёплым краі, на далёкім Ніле.




Між іншым, наш паветраны карабель вызначаецца яшчэ і тым, што мы можам бачыць падзеі, якія даўно закончыліся або якія яшчэ не адбываліся. Вось і цяпер мы перанесліся ў Швецыю, у Стакгольм, у чэрвень гэтага года.

На Каралеўскім стадыёне адбываецца цырымонія адкрыцця спаборніцтваў па коннаму спорту, якія ўваходзяць у праграму XVI алімпійскіх гульняў. У спаборніцтвах удзельнічае Савецкі Саюз. Вось-вось будзе запалены алімпійскі агонь, і спаборніцтвы пачнуцца.

Аматары спорту няхай адкажуць: якія вынікі гэтых спаборніцтваў? Да сустрэчы на старонцы 17.



# БАЦЬКАВА КРЫЎДА

Ул. КЛІМЯНКОЎ

Нарыс

На стале, застаўленым бляшаначкамі з клеем і масляными фарбамі, быў раскладзены вялікі аркуш белай паперы. Камсамольцы разам з сакратаром комсамольскай арганізацыі калгаса Васілём Хайковым выпускалі чарговы нумар насценнай газеты «Калгаснік». Васіль, цёмнавалосы хлопец, стоячы, упэўнена вадзіў па паперы пэндзлікам. Другі юнак, маладзейшы за першага, не зводзіў вачэй з аркуша і неспакойна пераступаў з нагі на нагу. З юнакамі былі дзве дзяўчыны ў аднолькавых суконках. Яны штораз заглядвалі цераз плячо мастака, давалі яму парады і рагаталі. Але мастак быццам не чуў іх. На паперы ўжо было намалявана сонца, якое пасылала свае промні на мяжу, дзе ў траве ляжала тоўстая жанчына. Вочы яе былі прыкрыты хусцінкай.

— Намалюй ёй муху на носе,— смеючыся, параіла сінявокая дзяўчына Ніна Пісарэнка, — каб адразу было відаць, што яна спіць як бервяно.

— Васіль, не слухай Ніну і не вельмі ўжо размалёўвай, — запярэчыў гарманіст Міхась Куцакоў, які ўвесь вечар маўчаў. — І так, калі цётка Ганна даведаецца, што я з вамі выпускаў газету, тады на вочы ёй не трапляйся.

— А чаго табе баяцца?—падтрымала сяброўку аграном Марыя Міхалькова.—Твая цётка больш спіць, чым працуе, ёй нават цяжка на вочы трапіць, бо яна іх не пралуплівае.

— Ох, Маня!—пагразіў хлопец.— Дойдзе і да цябе чарга.

Нарэшце, малюнак быў зроблены. Васіль Хайкоў разагнуўся і запытальна паглядзеў на таварышаў.

— Здарава,—прамовіла Ніна.—Як дзве кроплі вады падобная.

Васіль не чакаў такой пахвалы і засаромеўся. Потым ціха сказаў:

— Калі-б у мяне было больш часу і фарбы лепшыя...

— Зараз подпіс засталося зрабіць,—прамовіў Міхась.

— Абавязкова трэба,—сказала Марыя Міхалькова, не заўважыўшы ў яго голасе ноткі насцярожанасці.—Якая-ж карыкатура без подпісу!

— Подпіс прыдумвайце самі, — сказаў мастак.—З мяне пісьменнік не важны.

Усе трое павярнуліся да калгаснага аграноma Марыі Міхальковай. Яна была майстрам на выдумкі, асабліва на дасціпныя. Марыя ўмела нават і прыпеўку прыдумаць.

Улешчаная Марыя паспрабавала зрабіць абыякавы выгляд, але гэта ў яе не атрымалася.

— Подпіс?—перапытала яна.— Гэта дробязь. Праўду не трэба выдумляць, яна на віду ва ўсіх. І вось яна якая: таварыш Куцакова спала сабе на мяжы ў той час, як іншыя працавалі, а потым злуецца на праўленне сельгасарцелі, што ёй мала запісалі працадзён. Пішы такі подпіс, — звярнулася яна да Васіля:

У баразёнцы ляжала,
Працадні ўсе празявала.

— Вось гэта здорава!—Ніна Пісарэнка нават падскочыла ад задавальнення. — Як у сук уляпіла!

— Зараз я і зайсці не адважуся да цёткі Ганны, — зажурыўся Міхась Куцакоў. — А якімі яна смачнымі яблыкамі частавала!

— Ну, я пішу, — абазваўся Васіль Хайкоў.

— Ты хоць прозвішча не падпісвай пад малюнкам, — папрасіў Міхась.

— Добра, так і зробім, — згадзілася Марыя. — Калі ты думаеш, што гэта ўратуе, тады напішы адну літару «К», — дадала яна, звяртаючыся да сакратара комсамольскай арганізацыі.

— І так здагадаецца, каго гэта датычыць, — з усмешкай павярнуўся да дзяўчыны Васіль.

Міхась на момант задумаўся і раптам з'едліва прапанаваў:

— А што, калі намаляваць гэткую прыгожую разгалістую яблыню, скажам, такую, як у Васіля Дружкова, і на яе нехта лезе... — Ён зрабіў націск на слова «нехта». — Таксама, бадай што, той здагадаўся-б, каго гэта датычыць.

— Аб чым гэта ты? — павярнуўся да яго здзіўлены Васіль.

Міхась і Ніна зарагаталі. Марыя насупілася.

— Ты зірні толькі, — па-змоўніцку падміргнуў Міхась Ніне, — ён ужо не памятае. Як быццам гэта было вельмі даўно.

— Людзі хутка забываюць тое, што хочуць забыць, — патакнула Міхасю Ніна.

— Хто гэта залез на яблыню ў садзе, калі вартаўнік, — Міхась скоса зірнуў на Марыю, — у нядзелю гуляў з сябрамі ў карты?

— Ты маеш на ўвазе вартаўніка—майго бацьку? — захвалявалася Марыя.

— Ты на мяне не злуй, — паціснуў плячыма Міхась. — Я не буду ручацца, што гэта быў іменна твой бацька. Табе, бясспрэчна, лепш ведаць.

— А той, хто залез на дрэва, быў Васіль, — вымавіла Ніна.

У пакоі на момант стала ціха. Толькі праз адчыненую фортачку даносіўся далёкі рокат трактара.

— Я не адмаўляюся,—уздыхнуў, нарэшце, Васіль, які, размеціўшы подпіс, узняўся з крэсла. — На яблыню лазіў я.

— Вось бачыш! Сам прызнаўся,— працягваў наступаць Міхась, адчуваючы за сабою падтрымку Ніны.— Вы, калі крытыкуеце, дык каго хочаце, абы толькі не сябе, — дздзў ён з дакорам.

— Як гэта зразумець? — спытаў Васіль.

— А дзе павінна пачынацца крытыка? — узняў голас Міхась. — Ты выпадкова не ведаеш гэтага, таварыш Хайкоў?

---

І. НАУМЕНКА

БЫВАЙ, НАШ ПАЭЦЕ...

Замоўк нечакана твой голас прарочы,
У жальбе, у смутку наш край, —
Закрыліся ясныя, добрыя вочы,
Бывай, наш паэце, бывай...

У дні ліхалецця ты зваў на свабоду
Праз буры, праз бездань нягод,
Служыў ты вялікую службу народу
Для долі, для шчасця яго.

Твой голас Кастрычнік узняў па-над светам,
І мары твае расцвілі.
І песня лунала над цэлай планетай,
Што ёсць Беларусь на зямлі!

Ты — нашая слава, паэзіі сонца,
Цябе не забудзе наш край,
Твой голас бяссмертны—праўдзівы бясконца,
Бывай, наш паэце, бывай...

— Дык вось, няхай будзе табе вядома, — адказаў Васіль, паглядаючы то на Міхася, то на збялелую Марыю. — Я, да твайго ведама, крытыкі не баюся. І як толькі я закончу гэты малюнак, ты адразу-ж убачыш другі.

— Вася.. — нясмела заікнулася Марыя.

— І яны будуць вісець каля калгаснай канцылярыі побач, — дадаў ён.

— Але мой бацька...

Васіль зноў узяў у рукі пэндзлік:

— Ён павінен гэтак-жа вынесці крытыку, як і я.

І ён схіліўся над паперай, працягваючы маляваць.

Ніна з Міхасём змоўклі. Гарэзлівы настрой у іх знік, быццам яго змыла вадой.

Напісаўшы тэкст, прысвечаны Куцаковай, Васіль адсунуў крыху ўбок аркуш паперы, каб даць высахнуць фарбам, і зараз-жа пачаў маляваць другі малюнак. Усе трое ўбачылі, як на паперы з'явілася зялёнае разгалістае дрэва і на ім — юначая постаць у чырвонай майцы. Ніжэй, у левым кутку, мастак намаляваў мужчыну, які сядзеў за сталом і гуляў у карты. Яго твар Васілю вельмі ўдаўся: хітраваты, з прыжмуранымі вачыма і радзінкай на правай шчацэ. Гэта бацька Марыі Міхальковай.

— Хопіць ужо! — вырвалася ў Марыі.

Але Васіль працягваў сваю справу. У левай руцэ мужчыны з'явіліся тры карты, чацвёртая — дзесятка — ляжала на стале.

У гэтую хвіліну дзверы хаты-чытальні зачыніліся з такой сілай, што нават задрыжалі ў вокнах шыбы. Гэта Марыя Міхалькова выбегла з пакоя.

— Ух ты, чорт! — сцепанулася ад нечаканасці Ніна.

— Я зусім не думаў, што так атрымаецца, — разгублена прамовіў Міхась.

Подпіс да малюнка зрабілі без дапамогі Марыі, і ён атрымаўся не горшы, чым першы.

Каб не было сумнення ў тым, што за ласун залез на дрэва, збоку мастак падпісаў сваё прозвішча: «Васіль Хайкоў».

У вёсцы ўсе дарогі вядуць да калгаснай канторы. Калі ўранку Іван Міхалькоў спыніўся перад насценнай газетай «Калгаснік», яго ўвагу прыцягнула спачатку посстаць жанчыны, якая песцілася на сонцы, і ён шчыра зарагатаў: «Спрытна падчапілі! У гэтых падшываліцаў кацялкі вараць, няма чаго казаць. Ганна зараз ад злосці лопне, калі заўважыць, як яе размалявалі, — лагодна рагатаў Міхалькоў. — Я не хацеў-бы ў гэты момант быць на яе месцы».

Але ледзь толькі ён зірнуў на другі малюнак, як смех адразу камяком перасеў у яго горле. Ён правёў рукамі па твары, працёр вочы: ці не ашуквае яго зрок? Не. Пад малюнкам быў подпіс. Ён прачытаў яго раз, другі, трэці. «Ах, нягоднікі!» Міхалькоў асцярожна зірнуў вакол сябе. Хоць нікога паблізу не было, ён быў амаль упэўнены, што дзесьці з-за штакету кветніка або праз шчыліну веснічак на яго глядзяць людзі і смяюцца. Ён насунуў выліняглую шапку на самыя бровы, потым палез у кішэню, робячы выгляд, што чагосьці шукае: ці то бруска, ці то партсігара. Пошукі, як і трэба было чакаць, не далі вынікаў. Міхалькоў павярнуўся і пайшоў дадому.

— Дзе брусок? — гукнуў ён, шырока расставіўшы ногі.

— Але... — спалохана прамовіла Марыя, — ён-жа ў пуні, тата. Ты глядзеў там?

Не зводзячы гнеўнага позірку з дачкі, бацька спытаў:

— Ты таксама да гэтага руку прыклала, га? — і кіўнуў галавой у бок калгаснай канторы.

— Да чаго, тата?

— Да чаго, да чаго... Да гэтай вашай пляткаркі — газеты?

— Але, тата... — пачала Марыя. — Гэта-ж крытыка. І мы ўсе...

— Не мялі. Хто гэта намаляваў?

— Васіль.

— Хайкоў?

— Ніхто ў нас тут не можа так маляваць, як ён.

— Цікава. Іменна мяне, не хто іншы, як Васіль Хайкоў? — Ён паглядзеў у вочы дачцы. — А ты дзе была? Што на гэта сказала? Табе прыемна, што з бацькі здзекуюцца?

— Не, тата, — прызналася Марыя, у думках успамінаючы перажытыя ёю непрыемныя хвіліны. — Але што я магла зрабіць? Сам ведаеш — нічога. Я ўцякла адтуль. — А з ім я больш не буду размаўляць. Заракласяі. З мяне хопіць. Даволі.

— Яму-б трэба і сябе пакрытыкаваць, твайму Васілю, — сказаў стары ўжо міралюбна. — Гэта-ж ён лазіў па яблыкі.

— Ён і сябе намаляваў.

— Што? Гэты скакун на дрэве — ён і ёсць? Дык хто-ж яго пазнае?

— Кожны. Ён збоку яшчэ прыпісаў: Васіль Хайкоў. Хіба ты не заўважыў?

Не, гэтага ён сапраўды не заўважыў. Ён бачыў толькі намаляваны стол, на ім карты, сваё прозвішча, напісанае вялізнымі літарамі, а галоўнае, бачыў сябе, абняслаўленага, з радзінкай на правай шчацэ. Ён зноў прышоў у лютасць.

— Ах ты...

— Усё роўна ў мяне з ім усё скончана, — працягвала з абурэннем дачка. — Ён думае, што можна сабе дазволіць усё, што хочаш. Калі-б яшчэ накінуўся на мяне... А то-ж на цябе. Правільна, тата?

Той адказаў не адразу. Тут трэба было падумаць. Хлопец знайшоў у сябе сілы шчыра прызнаць сваю памылку. Намаляваў на сябе карыкатуру, зрабіў подпіс.

— Ён разумнейшы, чым мы ўдваіх аб ім думаем, — адказаў, пачакаўшы, бацька.

— А на ліха мне такі яго розум! — прамовіла Марыя.

— Не гавары з ім, — працягваў стары, — пра цябе і скажуць: зірніце, што за цаца Марыя Міхалькова: другіх крытыкуе, а яе не зачапі...

Марыя здзіўлена ўзняла галаву.

На хвіліну ў пакоі ўсталявалася цішыня.

— А ты, тата... Ты не крыўдзішся?

— Я?

Стары выпрастаўся. Ён быў яшчэ дужы, Іван Міхалькоў, вельмі дужы і поўны сілы. І ва ўсім ён мог памерацца з кожным: і ў працы, і ў сумленнасці думкі. Але хіба іншы раз чалавек не памыляецца?

І Міхалькоў стаў хуценька збірацца на работу.

Калгас «Комунар»
Чачэрскага раёна,
Гомельскай вобласці.



# ЗНОЎ НА

З. ІЛЬЕЎСКІ

Усё навокал дыхала велічным спакоем. Паветра было нібы настоена на водары лясных і лугавых кветак. Першыя промні сонца хораша адлюстроўваліся ў роснай траве, пранізвалі волкае лісце дрэў. Але нічога гэтага як-бы і не заўважаў Аляксей Мацкевіч, высокі хударлявы бландын, на маладым абліччы якога ляжаў ужо адбітак жыццёвых нягод і няўдач. Трымаючы ў адной руцэ невялікі клуначак са сняданкам, а ў другой — рыдлёўку, ён стомлена ішоў да лесу. А поплеч ішла яго жонка Соф'я. Абое яны паспыталі ўжо гарчэчы цяжкага жыцця на чужыне.

Ды не соладка ім жылося-былося і пры панскай Польшчы. Таму і падаліся Аляксей з Соф'яй за акіян шукаць шчаслівай долі.

Неўзабаве пасля таго, як Аляксей з жонкаю прыехаў на чужыну, ён упэўніўся, што ружовыя іх мары разляцеліся ўшчэнт. Усё часцей і часцей яны задумваліся: як жыць, як быць?

Гэткія думкі не давалі Аляксею спакою і ў той прыгожы красавіцкі ранак. Ён так урупіўся ў свае думкі, што нават не чуў, як яго некалькі разоў паклікала жонка.

— Што з табою, Алёша? Можа, не давядзі бог, захварэў? — ціхенька шмарганула яна за рукаў свайго чалавека. На прыгожы твар жанчыны лёг цень заклапочанасці.

— Не, дужы я. Ды вось толькі на сэрца нешта каменем легла. Усё думаю, што рабіць будзем, колькі яшчэ гэтых праклятых пнёў карчаваць трэба.

— Што-ж рабіць, Алёша. Будзем цягнуць лямку, пакуль маладыя і сіла яшчэ ёсць. А потым...

— А потым? — не даў ёй скончыць Аляксей. — Эх ты, рыбачка, усё суцяшаеш, а ў самой, глядзі, на сэрцы камень, — горка ўсміхнуўся Аляксей і хуценька пайшоў на свой участак ускрай лесу.

Прыехаўшы ў Амерыку, Мацкевічы надумалі, як і іншыя іх землякі, узбіцца на кавалачак зямлі. Вакол рассціляліся масівы ўрадлівых зямель, але яны былі панскія. А ім, пасяленцам, адводзіліся някранутыя чалавечай рукой участкі на балотах ды ў пнёўі. Трэба было сілы многа пакласці для таго, каб асушыць іх, выкарчаваць пні і прывесці зямлю да ладу. І вось ужо некалькі год, як Аляксей з Соф'яй, не разгінаючыся, ад цёмнага да цёмнага працуюць на ўчастку.

Ідучы на работу з калоніі пасяленцаў Карнель Багада, Соф'я замыкала ў хаце свайго малога сына Жэню і прасіла суседку, каб тая час-ад-часу пазірала хоць адным вокам у акно.

За чатыры гады пякельнай працы Мацкевічам удалося адваяваць у пустэчы каля трох гектараў.

**Дочкі А. А. Мацкевіча Ніна і Марыя з захапленнем чытаюць газеты на беларускай мове.**

# РАДЗІМЕ

Яны засеялі сваю дзялянку бавоўнаю і кукурузай.

Неяк Аляксей прышоў дадому вельмі-ж узрушаны.

— Вось што, Соф'я,— сказаў ён жонцы.— Хопіць нам тут гараваць. Ваюй не ваюй з пнямі, усё адно тут жыць няма як. Паедзем адсюль.

— Дык куды-ж мы з гэткай сям'ёю? Хто цябе там дзе чакае? Лепш ужо тут, хоць-жа трохі абжыліся.

Папрадаваўшы ўвесь свой нажытак, сям'я Мацкевічаў зноў паехала на пошукі шчасця. Дарога вяла ў сталіцу Аргенціны — Буэнос-Айрэс. Горад быў вялікі, шыкарны. Здавалася, усё тут можна знайсці. Але не для Аляксея. Цэлымі днямі ён хадзіў па вуліцах і праспектах, шукаючы работы, а ўвечары з нічым вяртаўся ў хаціну беларускага пасяленца, які прытуліў іх.

І ўсё-ж у горадзе было жыць лягчэй. Лягчэй таму, што тут, у калоніі рускіх, украінскіх і беларускіх пасяленцаў, якія многа год таму назад выехалі за акіян, быў нейкі свой свет, невідочнымі ніцямі звязаны з далёкай роднай зямлёю. Пасяленцы тут пабудавалі свой клуб, збіраючы па адным—два пезо, адпрацоўваючы на будаўніцтве вольныя гадзіны.

Актывістам быў у клубе і Аляксей Мацкевіч. Ён праводзіў гутаркі, чытаў савецкія газеты і часопісы, якія адкрывалі перад пасяленцамі новы свет — свет іх Радзімы. У клубе наладжваліся спектаклі: ставіліся украінскія, беларускія, рускія п'есы, спявалі песні на роднай мове.

Калі ў калоніі пасяленцаў стала вядома, што ёсць магчымасць выехаць на Радзіму, Аляксей Апанасавіч Мацкевіч быў адным з першых, хто пачаў думаць аб выездзе.

Мы прыехалі ў вёску Чарнакі ўжо надвячоркам. Сонечныя промні залацілі неаглядныя прасторы калгаса «Большэвік» — аднаго з перадавых у Камянецкім раёне. Чулася звонкая песня дзяўчат, што вярталіся з поля. Канчаў свой працоўны дзень і Аляксей Мацкевіч. Ён сёння быў заняты вырабам блокаў для будаўніцтва жывёлагадоўчых памяшканняў.

Мы пазнаёміліся. Аляксей Апанасавіч, молада ўсміхаючыся і моцна паціскаючы руку, сказаў:

— Прышлі паглядзець на «амерыканца»?

— Чаму на «амерыканца»? На нашага лепшага калгасніка Аляксея Апанасавіча Мацкевіча,— сказаў старшыня калгаса Якаў Васільевіч Каленкоў.— Ты-ж у нас цяпер сапраўдны хлебароб, будаўнік.

— Праўду кажаце, Якаў Васільевіч. Я — калгаснік!

Нейкі гонар прагучаў у гэтых словах Мацкевіча. Ён стаяў на ўзгорку з аголенай галавой, і ціхі ласкавы ветрык як-бы перабіраў яго русыя валасы. У шэрых вачах свяцілася радасць — радасць таго жыцця, якое вярнула яму маладосць, дало яму сапраўднае чалавечае шчасце. Гаварыў з намі Аляксей Апанасавіч з ахвотай.



Сям'я Мацкевічаў накіроўваецца ў госці.

Фото С. Чырэшкіна.

Ён расказваў пра гады, пражытыя на чужыне, пра тое, як сэрца яго рвалася ў родны край.

— Як уладкаваліся, абжыліся, Аляксей Апанасавіч?

— Добра, лепш не трэба. Дзяржава нам памагла — выдала дзве тысячы рублёў. Лесу сорак кубаметраў атрымаў я на новы дом. Ды пазыкі дзесяць тысяч рублёў далі мне. Я ўжо дом сабе будую. Хадземце вось ды паглядзім,—з гонарам запрасіў нас Мацкевіч.

Мы пайшлі на ўскраіну вёскі. Тут убачылі невялічкі, акуратна зрублены дамок.

— Гэта мы тут часова жывем,— растлумачыў нам Аляксей Апанасавіч.— А будуемся поруч.

І сапраўды, мы ўбачылі падмурак заснаванага новага вялікага дома. Вакол ляжала бярвенне. Аляксей Мацкевіч прыкінуў, што наваселле ён будзе спраўляць у сёлетнім годзе.

— Старшыня абяцаў нам памагчы. Ці праўду я кажу?—звярнуўся да старшыні Аляксей Апанасавіч.

— А як-жа, абавязкова паможам, Аляксей. Вось толькі трэба хутчэй скончыць грамадскія будынкі, а тады і за твой дом возьмемся.

— Вядома, старшыня, грамадскія будынкі ў першую чаргу,— згадзіўся Аляксей.— Я гэта разумею. Сам-жа будаўнік.

— Ды хіба ты толькі будаўнік?— хітра падміргнуў Якаў Васільевіч.— Ты-ж кіраўнік, член нашага праўлення. Сам галасаваў, да якога часу паставіць грамадскія будынкі. Дык і старайся.

— Пэўне, што так,— засмяяўся Аляксей.

Гаворка перайшла на калгасныя справы: аб перспектывах далейшага развіцця грамадскай гаспадаркі, аб тым, што сёлета калгас павінен атрымаць чатыры з лішнім мільёны рублёў прыбытку. Аляксей жыва цікавіўся ўсім. Ён нагадаў, што трэба-б падвесці вынікі спаборніцтва брыгад па ўборцы ўраджаю. Відаць было, што справы калгаса сталі яму блізкімі, роднымі, што ён сам сябе адчувае членам вялікай, дружнай калгаснай сям'і.

Неўзабаве старшыня калгаса пайшоў у трэцюю паляводчую брыгаду, а мы засталіся ля аляксеевага дома. Аляксей не мог нахваліцца сваім новым жыццём.

— Ды вы разумееце,— гаварыў ён,— я нібы нанава на свет нарадзіўся. Мінула якіх-небудзь восем месяцаў, як я вярнуўся ў родную Беларусь, а мне здаецца, што я ўжо ніколі і на чужыне не быў. Здаецца, аж памаладзеў. А чаму? Ды таму, што знайшоў сваё месца ў жыцці, інтарэс да ўсяго адчуў.

Неўзабаве мы пазнаёміліся з аляксеевай жонкай Соф'яй Рыгораўнай. Сярэдняга росту, светлавалосая, яна гэтак-жа, як і муж, была поўна кіпучай энергіі. З першых дзён прыезду яна актыўна ўключылася ў калгасную працу. Рабіла ўсё, што толькі траплялася. А на прадвесні Соф'ю Рыгораўну паставілі за звенявую ільнаводчага звяна.



**Аляксей Апанасавіч Мацкевіч — выдатны цясляр.**

У Соф'і Рыгораўны хапае работы і ў хатняй гаспадарцы. Яны ўжо маюць сваю карову, набылі парсюка, птушак ды прысядзібны ўчастак. Усё гэта даведзена да ладу. У хаце Мацкевічаў цяпер дастатак.

З гонарам гаворыць Соф'я Рыгораўна пра сваіх дзяцей.

Большы іх сын—Жэня—цяпер у Мінску, працуе на радыёзаводзе. Піша, што прайшоў курсы і ўжо стаў майстрам. Дзве дачкі вучацца ў школе, а ўлетку памагаюць маці ўпраўляцца з ільном.

— Добрыя ў мяне дзяўчаты,— задаволена ўсміхаючыся, гаворыць Соф'я Рыгораўна.— Як толькі мы прыехалі сюды, дык я з імі раніцай выходзіла ў поле і казала: «Слухайце, мае дзеткі, як птушкі спяваюць. Гэта наша Радзіма спявае». А як ім хацелася вярнуцца на Радзіму, хоць яны яе ніколі ў вочы не бачылі! Бывала, меншая, Марылька, падыдзе да мяне і пытае:

— Мама, у якім вуху звініць?

Калі скажаш: — У левым, дык яна аж заскача ад радасці:

— Угадала, угадала! Значыць, хутка дадому паедзем!

— Дык вось мы і прыехалі сюды,— Соф'я Рыгораўна гэтак шырока разняла рукі, нібыта хацела абняць усё наваколле.— Прыехалі ў родны край, назаўсёды, на векі вечныя. Вярнулі сваё шчасце.

Развітваючыся з намі, Аляксей Апанасавіч і Соф'я Рыгораўна па-сяброўску запрашалі нас на наваселле, у новы светлы дом, які вось-вось вырасце ў вёсцы.

— Мы-ж кожнаму свайму чалавеку рады,—казалі яны.

А нам думалася: так шчыра могуць запрашаць толькі людзі, якія знайшлі, нарэшце, пасля доўгіх пошукаў сваё шчасце, вярнулі сваю маладосць у савецкай краіне.

**Калгас «Большэвік» Камянецкага раёна, Брэсцкай вобласці.**

Гэтыя здымкі расказваюць аб Брэсцкай крэпасці і слаўных героях, якія адстайвалі яе ў 1941 годзе ад гітлераўскіх полчышчаў. Подзвіг абаронцаў крэпасці — адна з самых слаўных старонак мужнай барацьбы савецкага народа супраць іншаземных захопнікаў.

Праз пятнаццаць год пасля неўміручага подзвігу група абаронцаў Брэсцкай крэпасці прыехала ў горад, дзе ў 1941 годзе яны вялі барацьбу супраць ворагаў.

Цяпер гэтыя людзі ўзмужнелі, пастарэлі, але ўсе яны і зараз знаходзяцца ў першых радах будаўнікоў комунізма.

Тое, што было пятнаццаць год назад, паўставала з расказаў герояў, як герaічная эпапея нашых дзён. З таго самага часу, як героі прайшлі ў крэпасць праз Тыраспальскую вежу і пачалі аглядаць крэпасць, усё ім напаміналa аб мінулых днях абароны, аб таварышах, якія ахвяравалі сваім жыццём.



Цікава пабываць на месцы былых баёў. І вось праз 15 год тыя, хто застаўся ў жывых, прыехалі сюды, у Брэсцкую крэпасць, каб ушанаваць памяць сваіх аднапалчан, што разам з імі адстайвалі гонар і незалежнасць Радзімы.

Удзельнікі абароны ідуць паўз крэпасныя сцены, кожны камень якіх сведчыць аб мужнай барацьбе людзей.



У крэпасці адбыўся мітынг. М. П. Гурэвіч, музыкант аркестра Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, былы абаронца крэпасці, расказвае аб баях 1941 года.

Фотанарыс С. ЧЫРЭШКІНА.

# Іх слава бе...

## 1944



На гэтых здымках вы бачыце крэпасць такой, якой яна была ў 1944 годзе. Руіны, горы цэглы, бетону, варонкі ад снарадаў. Гітлераўцы не шкадавалі пораху, бомбаў. Але іх зброя аказалася слабейшай за волю жменькі савецкіх людзей.

Абарона Брэсцкай крэпасці паказала, што савецкія людзі ніколі не стануць на калені перад любымі захопнікамі, з якой-бы зброяй яны ні ішлі на нашу зямлю.

Вось тут насмерць стаялі слаўныя рускія салдаты. Пад узрывамі бомбаў рушыліся крэпасныя сцены, але агнявыя кропкі нашых байцоў не змаўкалі.

Пётр Клыпа, П. М. Гаўрылаў і Самвел Матэвасян аглядаюць сутарэнні, дзе яны трымалі абарону.



Герояў прышлі сустракаць піонеры. Абаронцы Пётр Клыпа і Самвел Матэвасян з піонерамі. Дзецям цікава ведаць пра ўсё. Яны не помняць вайны і для іх незразумела, чаму нямецкая армія ішла забіваць нашых савецкіх людзей.









↑

Доўга лічылася, што амаль усе абаронцы крэпасці загінулі. Якім шчасцем асвяціўся твар Ларысы Клыпы, вучаніцы 5-й школы г. Брэста, калі яна не толькі даведалася, што яе дзядзька Пётр Клыпа жывы, але і ўбачыла яго здаровым.



→

Тут кожная жменька зямлі напамінае аб мінулых днях. П. М. Гаўрылаў, былы камандзір палка, аглядаючы крэпасць, знайшоў інструмент, на якім выразна захавалася адмеціна артылерыйскіх майстэрняў. Гэта не першая рэліквія, знойдзеная былымі абаронцамі крэпасці.





→

Ніколі не памеркнуць у вяках слаўныя подзвігі савецкіх воінаў, якія абаранялі Брэсцкую крэпасць. Аб іх расказваюць шматлікія экспанаты, сабраныя ў музеі, што створаны ў Брэсцкай крэпасці. Героі наведалі Музей абароны Брэсцкай крэпасці. Пасля агляду экспанатаў яны, як ганаровыя госці, пакінулі свае подпісы ў кнізе водзываў.

Аляксей ПЫСІН

## Цеплаход „Ісачанка"

Сказалі хлопцы так перад скананнем:
— Не расстаемся, не!
І хоць дубамі, а з магіл устанем
У роднай старане;

Абнімем дол карэннем і ускінем
Аж да нябёс чубы...
Гудуць з вятрамі па-над Сожам сінім
І тут і там дубы.

Імя славутае на цеплаходзе,
Што ў рэйс ідзе з зарой.
Нібыта сам Ісачанка абходзіць
Дубоў надрэчных строй.

У дубровах маладых сціхае гоман
На некаторы час.
І чуе Слаўгарад, і чуе Гомель
Вітальны зычны бас.

Спяваюць у каютах маткі дзецям
Пра славу дзён былых.
І цеплаход калыскаю здаецца,
Якую гойдае само бяссмерце
На хвалях веснавых.

Мікола АРОЧКА

## Зямля

Як ідзеш адвячоркам дадому з палёў,
Ты нясеш, апроч стомы і мазалёў,
 На гарачых руках
 І зямлі сваёй пах.
Узарэш ты бязмежныя гоні
 вясной —
І прапахнуць далоні
 сырой баразной.
Рукі пахнуць зярнятамі, што высяваў,
Ці снапамі, нажатымі ў часе жніва.
 Працаваў без прынук,
 Не шкадуючы рук.
І хоць сіл аддаеш ты нямала палям —
Іх табе ўсе дарэшты ўзнаўляе зямля.

Алесь СТАВЕР

## Песня

Спяваў я песню у гуморы,
Мне падабалася яна:
— Калі-б я меў златыя горы
І рэкі, поўныя віна...

Свой лёс спаткаў я нечакана
І пасля першых стрэчаў трох
Быў я да смерці закаханы —
Жыць хвілі без яе не мог.

І не забыць мне той нядзелі —
Здаецца, ўчора ўсё было, —
Калі на нашым на вяселлі
Гуляла роднае сяло.

Усё мяняецца з гадамі,
На месцы не стаіць жыццё,
Але нязменна паміж намі
Гарыць святое пачуццё.

Гарыць сягоння, як і ўчора,
І шчасцем грэе нас яно,
Хаця не меў златых я гораў
І рэк, напоўненых віном.

Уладзімір НЯДЗВЕЦКІ

## Раніцай

Вітаючы першы прамень,
Узвіўся дымок над хатай.
Наблізіўся новы дзень,
Мільёнамі спраў багаты.

І трактар гудзе і дрыжыць,
Начышчаны, як ніколі;
Здаецца, пусці — пабяжыць
Ён сам з МТС у поле.

Зняў молат каваль з плячэй,
І гулка звініць жалеза.
А сонца вышэй і вышэй
На дрэвы, на стрэхі лезе.

Збірае расу на траве,
На руні ў палях зялёных,
І нізка яму журавель
Над студняю б'е паклоны.

## Ты з намі не ехаў

Ты з намі не ехаў... За дзверы тайком
Ступіў і пусціўся наўцёкі.
Паклаў ты ў кішэню уласны дыплом,
Не ўзяўшы сваёй пуцёўкі.

У нашай вясёлай і шумнай гурбе
Цябе не было на вакзале.
І, нібы аб мёртвым, тады аб табе
Ні слова мы там не сказалі.

І сам ты, напэўна, не ўспомніў пра нас,
Часовы знайшоўшы прытулак.
Ты нават забыў, што у бацькі спіна
Яшчэ стала болей сутулай.






## На 9 гадоў маладзей за А. С. Пушкіна

Азербайджанцу Махмуду Эйвазаву 147 год. Ён нарадзіўся тады, калі А. С. Пушкіну было 9 год, а М. Ю. Лермантаў яшчэ не нарадзіўся. Адзін з старэйшых людзей нашай краіны — Эйвазаў жыве ў высокагорным Лерыкскім раёне, у сяле Пірасура, якое знаходзіцца на вышыні больш двух тысяч метраў над узроўнем мора. Больш ста год Эйвазаў займаўся авечкагадоўляй, пераганяючы атары па горах і далінах. Махмуда Эйвазава ведаюць у Азербайджане як вельмі актыўнага чалавека, гарачага прыхільніка ўсяго новага. Быў ён не толькі чабаном, але і садоўнікам, вырошчваў збажыну і кукурузу, захапляўся сталярнай справай і працаваў у кузні, займаўся пчалярствам і разводзіў птушак. І цяпер Эйвазаў працягвае працаваць у калгасе імя Комсамола, які ён стварыў разам са старэйшымі сынамі. У апошнія гады старэйшы калгаснік вырошчвае пшаніцу і бульбу. Свой працоўны дзень ён пачынае з зарой і заканчвае яго позна ўвечары. У мінулым годзе Эйвазаў выпрацаваў 270 працадзён.

У М. Эйвазава вялікая сям'я. Ён — бацька дваццаці трох дзяцей, галава дынастыі, у якой 152 чалавекі. Яго старэйшай дачцы каля 120 год. Сярод яго дзяцей чабаны і настаўнікі, садаводы і нафтавікі, хлебаробы і воіны Совецкай Арміі.

Нядаўна Махмуд Эйвазаў быў у Маскве. Старога азербайджанца бачылі ў Крэмлі і на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, у МДУ і ў Акадэміі навук.

Аб паездцы ў сталіцу старэйшы калгаснік часта і ахвотна расказвае сваім землякам.

На здымку: Махмуд Эйвазаў дзеліцца сваімі ўражаннямі аб Маскве з вучнямі сярэдняй школы раённага цэнтра Лерык.

## Браты-трактаразаводцы

У адным з інтэрнатаў трактарнага пасёлка ў невялікім пакоі жывуць браты Васіль, Фёдар і Анатоль Бядуліны. Усе яны — трактаразаводцы. Старэйшы з братоў — Васіль — працуе ў кавальскім цэху электразваршчыкам. За старанную працу ён неаднаразова атрымліваў падзякі, каштоўныя падарункі і граматы. Васіль — добры грамадскі работнік, ён з'яўляецца групкомсоргам, рэдактарам цэхавай насценгазеты. Яго сёлета прынялі кандыдатам у члены партыі. Малады комуніст не толькі спраўляецца з вытворчай і грамадскай работай, але і паспяхова вучыцца ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

Сярэдні брат Бядуліных — Фёдар — электрык у тралёвачным цэху. Ён прышоў на завод пасля заканчэння дзесяцігодкі і за кароткі час нядрэнна асвоіў сваю спецыяльнасць. У гэтым годзе Фёдар паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на вячэрняе аддзяленне.

А меншы з братоў — Анатоль — працуе ў электрацэху. Старанны, увішны рабочы, Анатоль захапляецца мастацтвам, добра малюе. Плакаты, лозунгі — усё мастацкае афармленне ў цэху зроблена яго рукамі. Як і старэйшыя браты, Анатоль не спыняецца на дасягнутым у жыцці: ён паспяхова займаецца ў школе рабочай моладзі.

У пакоі хлопцаў чыста і ўтульна. На этажэрцы — акуратныя стусы кніжак, на стале — кветкі, сцены ўвешаны карцінамі і малюнкамі. Многія намаляваны Анатолем.

Дружныя, працавітыя браты Бядуліны служаць добрым прыкладам для нашых маладых трактаразаводцаў.

П. КРУПКО,
электрык цэха тралёвачных трактараў Мінскага трактарнага завода.

## Рачны вугор

Звычайны рачны вугор — вельмі каштоўная рыба. Яна вылаўліваецца амаль ва ўсіх рэках, якія ўпадаюць у Міжземнае, Поўночнае і Балтыйскае моры, а таксама ў Атлантычны акіян.

Нягледзячы на тое, што вугор вядомы чалавеку з глыбокай старажытнасці, ніхто ніколі не заўважаў у яго ні ікрынак, ні малокі. Даўно было заўважана, што кожны год вясной мноства маладых вугроў накіроўваецца з мора ў вусці рэк, а ўвосень, падросшыя і ўзмацнеўшыя, яны вяртаюцца зноў у мора. Вугры здольны выходзіць на сухазем'е і перасоўвацца з рэк па лузе ў закрытыя вадаёмы. Вугор можа пражыць на паветры некалькі дзён, калі падтрымліваць вільготнасць яго скуры.

Увагу вучоных даўно прыцягнула загадка размнажэння гэтай дзіўнай рыбы. Першыя звесткі пра вугроў знаходзяць у Арыстотэля, які меркаваў, што вугры нараджаюцца самі па сабе ў іле азёраў. Пазней думалі, што вугры — жывародзячыя. Толькі ў мінулым стагоддзі з дапамогай моцнай лупы удалося разглядзець яечкі-ікрынкі вугра велічынёй не больш 0,2 міліметра, якія знаходзяцца ў складках палавых органаў самкі.

У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Месінскім праліве Міжземнага мора былі знойдзены маленькія, сплюснутыя з бакоў празрыстыя рыбкі, якія былі вылучаны ў асобны від і апісаны пад назвай тонкагаловых — лептацэфалаў. Амерыканскі вучоны выказаў здагадку, што лептацэфалы і ёсць лічынкі вугра. Гэтай думкі прытрымліваліся і італьянскія вучоныя.

У пачатку цяперашняга стагоддзя ў Еўропе была арганізавана міжнародная камісія па даследаванню поўночных мораў, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Англіі, Бельгіі, Германіі, Галандыі, Даніі, Нарвегіі, Расіі і Швецыі. Сярод іншых пытанняў даследчыкі заняліся разгадкай тайны размнажэння вугра. Дацкі іхтыёлаг Іаган Шмідт у 1904 годзе заўважыў на вялікай глыбіні каля берагоў Ісландыі і Фарэрскіх астравоў ўяўляемых лічынак вугра — лептацэфалаў. Такія-ж лічынкі былі знойдзены і каля берагоў Ірландыі. Тады-ж быў устаноўлены факт велізарных перасоўванняў вугра з вялікіх глыбіняў Атлантычнага акіяна ў рэкі і назад.

У 1920 годзе было знойдзена адзінае месца мятання ікры вугром — яно знаходзіцца ў заходняй частцы Атлантычнага акіяна, на поўдзень ад Бермудскіх астравоў, у Саргасавым моры, на глыбіні 1000 метраў. Гэта — самае цёплае месца ў Атлантычным акіяне. Нерастуе вугор з вясны да палавіны лета на самым дне. Лічынка тут-жа праходзіць першую стадыю свайго развіцця, дасягаючы ў сярэднім 25 міліметраў, і зусім не падобная па свайму выгляду на вугра. Яна мае выгляд прадаўгаватага ліста расліны, сплюснутага з бакоў, і такая празрыстая, што прасвечвае кішэчнік і яго змесціва.

Амаль год лічынкі знаходзяцца на месцы нараджэння. Наступным летам, дасягнуўшы 50 міліметраў, яны перапłываюць з заходняй у сярэднюю частку акіяна, а на трэцяе лета, дасягнуўшы 75 міліметраў, падыходзяць да берагоў Еўропы. У пачатку чацвёртага года колішнія лічынкі ператвараюцца ў маладых вугроў, але не трацяць сваёй празрыстасці і носяць назву «шкляныя вугры». Яны масамі плывуць у прэсныя рачныя воды. Такім чынам, маладыя вугры робяць пераходы да пяці тысяч кіламетраў, пераадольваючы на сваім шляху ўсе перашкоды.

Варта адзначыць, што асаблівую прыхільнасць да вандраванняў праяўляюць вугры-самкі, а самцы часта застаюцца ў нізоўях рэк і нават у апрэсненых участках мора. У прэсных вадаёмах, рэках і азёрах вугор жыве да надыходу палавой спеласці. У халодных і бедных пажывай водах гэтая рыба расце і тлусцее марудна — год дзесяць — пятнаццаць, а ў цёплых і пажыўных — год пяць — восем. Самцы па велічыні меншыя за самак і дасягаюць 0,5—0,6 метра, даўжыня самак 1—1,5 метра, асобныя з іх дасягаюць да двух метраў.

Днём вугры ў спакоі ляжаць на дне, а з надыходам ночы накіроўваюцца на здабычу. Вугор — драпежнік, ён харчуецца living рознастайнымі вадзянымі насякомымі і іх лічынкамі, ловіць жаб, апалонікаў, маладых рыбак, паядае ікру рыб.

Зусім даспеўшыя ў палавых адносінах серабрыстыя вугры пакідаюць прэсныя воды і накіроўваюцца ў Атлантычны акіян, у Саргасава мора, дзе нерастуюць. Пасля гэтага самцы і самкі, знясіленыя і схуднелыя, гінуць.

Звычайны еўрапейскі вугор водзіцца ў рэках Еўропы да 71° поўночнай шыраты, апрача рэк Чорнаморскага і Каспійскага басейнаў. Амерыканскі вугор амаль не адрозніваецца ад еўрапейскага сабрата і распаўсюджаны па ўсіх рэках усходняга ўзбярэжжа Поўночнай Амерыкі.

У межах Беларускай ССР гэтая каштоўная і цікавая рыба сустракаецца ў Нёмане, Заходняй Дзвіне, Заходнім Бугу і ў іх прытоках, а таксама ў азёрах, якія належаць да басейнаў гэтых рэк.

Вугор — рыба прамысловая, яна дае вельмі смачнае мяса, яе скура такая трывалая, што з яе можна вырабляць рамяні.

Д. МАРОЗАЎ.

## Уздзеянне музыкі на развіццё раслін

У адным з індыйскіх біялагічных інстытутаў двое студэнтаў правялі эксперымент над уздзеяннем музыкі на рост раслін. Некалькі кустоў мімозы былі змешчаны ў памяшканні, дзе кожны дзень вечарам на працягу 25 хвілін игралася адна і тая-ж індыйская мелодыя на розных інструментах.

Некалькі такіх самых кустоў мімозы былі змешчаны ў такіх-жа ўмовах у іншым памяшканні, дзе такіх «канцэртаў» не праводзілася.

Праз некалькі месяцаў праведзеныя доследы паказалі, што кусты, якія вырошчваліся «з музыкай», былі намнога большыя за іншыя. Лісце было больш буйным, а даўжыня веццяў была на 50 працэнтаў большая, чым у кустоў, што раслі «без музыкі».

Студэнты правялі даследаванні і над іншымі раслінамі, выкарыстоўваючы розныя інструменты, у тым ліку духавыя. Вынікі аказаліся падобнымі. Найбольш эфектыўным інструментам з'явілася скрыпка.

## Самыя высокія будоўлі ў свеце

У Маскве пачнецца будаўніцтва тэлевізійнай вежы вышынёй 500 метраў, на вышыні 200 метраў будзе абсталявана спецыяльная платформа, з якой турысты змогуць аглядаць панараму Масквы.

У ЗША ў штаце Алабама будуецца тэлевізійная вежа вышынёй 562 метры.

Самай высокай тэлевізійнай вежай у свеце з'явіцца вежа, што будуецца ў сталіцы Бельгіі — Бруселі для міжнароднай выстаўкі 1958 года. Вышыня яе будзе 700 метраў.

Самай высокай тэлевізійнай вежай, збудаванай да гэтага часу, з'яўляецца вежа ў штаце Оклахома ў ЗША вышынёй 479 метраў. У Еўропе самая высокая тэлевізійная вежа знаходзіцца ў Рашыне ў Польшчы. Вышыня яе 337 метраў.

# ДВА АПАВЯДАННІ

Йован Раоніч — малады югаслаўскі пісьменнік. Ён нарадзіўся ў 1922 годзе ў горадзе Цітаградзе (Чарнагорыя). Там-жа скончыў гімназію. Затым вучыўся на філасофскім факультэце Загрэбскага універсітэта.

Пісаць Раоніч пачаў яшчэ ў гімназіі. Друкуецца ў маладзёжных часопісах «Маладая культура», «Перамога», «Маладзёжны рух» і інш.

Апрача вялікай колькасці апавяданняў, Раоніч напісаў два раманы пра моладзь Югаславіі.

Йован РАОНІЧ

## Бомба

Яна была свежая, ружовашчокая і прывабная, як ягадка ў ранішняй расе. Ёй толькі што споўнілася семнаццаць год. Звалі яе Мілай.

Джура быў добрым вучнем сёмага класа гімназіі. Ён услухоўваўся ў апавяданні свайго пахмурага бацькі, угледаўся ў засмучанае аблічча маці і чакаў, калі настане час пакінуць горад.

Яны былі суседзямі, жылі адно ад аднаго праз дом, але двор быў агульны.

Гэта была цудоўная вясна, поўная надзей і жаданняў. Вайна здавалася ўжо звычайнай з'явай, гэтак яна ўвайшла ў жыццё, у клопаты і смутак старых, у гульні малых.

А можа, у той час не было малых? Усе сябе адчувалі старымі — і тыя, што жылі ўжо даўно, і тыя, што толькі пачыналі жыць, і тыя, якіх ужо ніколі больш не будзе. ,

Было гэта там, дзе і камень ператварыўся ў тло, у горадзе і ў час, у які і мёртвыя працягваюць жыць ва ўспамінах і апавяданнях, у сівых валасах і высушаных слязьмі вачах матак, у памяці маладых, у здзіўляюча багатай падсвядомасці тагочасных дзяцей.

Быў май тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года. Цяпер, як прайшло столькі часу, таго краю нельга пазнаць. Але я добра памятаю той май, той дзень і што тады адбылося.

На дрэвах ліп уздоўж вуліц, у парках — усюды буяла вясновая зеляніна. Але двор быў перакапаны равамі, бомбасховішчамі. У канцы гэтага вялікага двара знаходзіўся нейкі невялікі стары роў, крыху больш за метр глыбінёю. Нікому той роў не быў патрэбны, і яго усе абміналі.

Я вельмі кахаў Мілу. А яна кахала Джуру. Але ён думаў, што яна яго мала кахае. Міла ні разу не вышла на спатканне ўвечары. Толькі ўдзень. А ў гімназіста ўсе дні былі занятыя, каб сустракацца і гаварыць з Мілай.

У гэты дзень, хуценька паабедаўшы, Міла вышла сушыць бялізну. Сушыла яна яе на двары. Джура чытаў кніжку ў канцы двара. Чытанне змянялася роздумам і летуценнямі. Задумлівы ягоны позірк быў скіраваны кудысьці ўдалячынь.

Некаторы час ён глядзеў некуды ў прастору, не бачыў нічога перад сабою. Але калі з'явілася Міла, ён апусціў галаву і больш нікуды не глядзеў. Здзіўляўся. Чакаў. Чытаў.

Раптам ён адчуў, як яго ахінула нейкая хваля радасці, нешта такое, што магло быць ад гэтай дзяўчыны. Па жылах разліўся той гарачы струмень крыві, які прымусіў яго некалькі дзён назад абняць яе з гэткай сілай, што яна войкнула і ўцякла.

І перш, чым Міла паспела паклаесці яму на плечы свае рукі, ён схапіў яе і прыціснуў да сябе.

— Ой, не трэба, балюча, пусці рукі... нас убачаць... пусці.

Гаварыла хуценька, узрушана, уся калацілася ад полымя, якое абпякала і яго, несутрыманасць полымя абуджанай крыві.

А затым? Затым гарачыя словы, таропкая гаворка, хваляванне ды зноў словы, пакуль не загудзела ў вушах. І хоць звонкае гудзенне далятала ўжо зусім зблізку, яны яго не чулі. А гэта было гудзенне матораў эскадрылляў бамбардзіроўшчыкаў, якія з'явіліся над горадам. І гэта таксама ўжо было звычайнай з'явай. Заўсёды праляталі міма, далей. Хлопец і дзяўчына былі ўсхваляваны, кроў усё мацней пульсавала ў жылах. Яна, смеючыся, пачала апускацца ў шырокі роў, які быў збоку ад яе, нават не заўважаючы гэтага, і ўсё смяялася і смяялася, ціха і шчаслівa.

Самалёты заўсёды праляталі далей.

Яна ўжо спусцілася на дно рова, які быў ёй па грудзі. Тут яна здзіўленая спынілася. Ён падаў ёй руку. І яна аж сагнулася ў яго абдымках. Вочы яе заіскрыліся, а вусны раскрыліся.

Вялікі роў у двары, і схаваў іх так, што ніхто не мог іх бачыць. Ніколі ў сваім жыцці яны гэтак саладка не цалаваліся.

І раптам над гэтым маладым, гарачым пацалункам нешта загудзела, заскуголілі сірэны, закрычалі галасы... Узняўся незвычайны шум, паніка. І вялікі шырокі роў напоўніўся людзьмі. І пакуль рваліся бомбы, дзве маці безупынна клікалі: «Міла!» «Джура!..»

А пацалунак перапыніўся пры першым выбуху.

Усё скаланулася. Неба нечакана пакрылася белымі дымкамі, металічнымі воблакамі, нейкімі чорнымі струменлівымі кропкамі.

Выбухі свісталі, звінелі, адгукаліся гулкім рэхам у гарах. Вочы дзяўчыны шырока расплюшчыліся ад жаху, яна, спалоханая да смерці, прыціснулася да Джуры, і ён разумеў, што не можа паварухнуцца, таму што яна тут каля яго.

— Джу-у-ра.

Ён шырока расплюснутымі вачыма глядзіць у яе вочы. Яна таксама глядзіць у яго вочы. І міжвольна вусны іх зліліся ў доўгі пацалунак. І раптам паветра і зямля скалануліся. Нейкі чорны цень, падобны на морак \ бляск маланкі, патушыў іх свядомасць, усё здрыганулася вакол іх, сцены ірва зрушыліся, палавіну яго засыпала зямлёю, і нешта вялізнае перавярнулася па ўскапанай зямлі.

Ляжыць.

Шэрая, сталёвая, вялікая бомба тырчала з зямлі і як-бы глядзела на іх. Яна, нібы молатам, ударыла па іх свядомасці, ударыла па іх сэрцах. Яны чакалі. Чакалі, прыгнуўшыся да зямлі. Ні дыхання, ні руху, ні думкі.

Але нічога, роўна нічога не здарылася.

Можа, так і не дайшло да іх свядомасці, што зямля вакол іх дрыжала і гудзела, дахі дамоў, мэбля — усё гэта ў страшэнным віхуры кружылася, ляцела і падала вакол іх, у той час як прарэзлівы крык, што далятаў з усіх бакоў, пранізваў, здавалася, навылет. І пасяродку ўсяго гэтага хаосу над іх ровам, над іх прыгнутымі ў смяротным страху галовамі пачуўся ўдар новага выбуху, як новая, небяспечная вокамгненная пагроза, якая здалася ратункам, быццам адчыніліся нейкія дзверы, якія нямаведама адкуль узяліся і прынялі ў сябе ўвесь лівень, што павінен быў іх затапіць, увесь лівень зямлі, тла, асколкаў бомб і, можа, адарваных кавалкаў чалавечых целаў.

Ці можа чалавек звар'яцець?

Калі ён здаровы, малады і дужы — не можа. А яны былі ўдвая дужыя — маладосцю і каханнем. І ў той-жа час, як жах праносіўся над іх галовамі, Міла на ўсю сілу старалася выжыць. А ці былі вакол людзі? Ці быў там хто-небудзь, апрача іх? Хто гэта ведае?..

Мал. Ф. Бараноўскага.



І ў той час, як хвіліны, поўныя жахлівай цішыні і выбухаў, праміналі, іх абдымкі станавіліся яшчэ мацнейшымі.

Так прайшла першая хваля. Другі налёт быў яшчэ больш люты. У прапыленым паветры чуліся крыкі, ад якіх ледзянела кроў, крыкі з бомбасховішча, ля ўваходу якога ўзарваліся бомбы.

Крыкі сціхлі.

Затым прайшла хваля трэцяга налёту, чацвёртага.

Калі прайшоў кашаль ад дыму і пылу, калі асела ўзнятая выбухамі хмара пылу, яны апрытомнелі і пайшлі шукаць сваіх, памагчы каму-небудзь.

Раптам Міла спынілася і крыкнула:

— Мама!

— Ён пабег шукаць рыдлёўку. Яна—дахаты.

Міла не знайшла сваёй маці. У рове былі толькі нежывыя.

Поўныя жахаў вайны, але акрылёныя пачуццём нечага ўзвышанага, яны ўдваіх ішлі з горада. У горы, да партызан.

Калі ў сорак пятым годзе яны вярнуліся ў свой горад, нічога нельга было пазнаць сярод руін. Але пасярод усяго гэтага хаосу яны ўбачылі на двары бомбу, якая тырчала з зямлі. Іх бомбу.

# Свята

Сівая, знямоžаная жанчына, абапёршыся на падаконнік, глядзіць уніз на абадранага палоннага і шэпча:

— Ты, гэта ты...

— Прашу вас, па...

— Ты — гора сваё і чужое — ты забіў маю адзіную. Яна ніколі нікому і нічога не зрабіла дрэннага. Ды і не магла зрабіць: яе рукі былі кволыя, як павуцінка. А валасы — яны былі залатыя. Вочы яе свяціліся, бы тыя ясныя зоры. Дзіцятка маё няшчаснае, навошта ты мяне пакінула?

— Пані...

— ... Хіба яна магла зрабіць зло, калі яна абуралася ім сама, як і яе бацька? Яна і была падобна на бацьку — чорнавокая, а валасы — светлыя... Ці-ж мая дачка вінавата, што ўспыхнула паўстанне? Вы самі выклікалі наша паўстанне. Вы. А потым усіх перас...

— ... Прашу вас, трошачкі хлеба.

— Што табе, няшчасны? Хлеба?..

Яна перастала шаптаць, але ўспаміны пра дачку былі мацней за яе. Пачуццё болю зноў ахапіла жанчыну, і яна прадаўжала скардзіцца і плакаць:

— За што вы яе забілі? Ёй яшчэ толькі васемнаццаты гадок ішоў. Яна нічога пра жыццё не ведала, не думала нават, што такое жыццё. Думала толькі пра паўстанне. Можа... можа ў яе быў там хто блізкі... О, навошта вы яе забілі?..

Палонны адступіў, убачыўшы на яе бледным твары зацяты боль.

Ён хацеў пайсці.

Жанчына паднялася.

— Просіш хлеба, так? Хадзі сюды!

Яна паказала яму рукой на прыступкі, запрашаючы падняцца наверх, у дом, да яе.

Палонны быў здзіўлены. Хвіліну ён пастаяў, раздумваючы, што яму рабіць. Потым пачаў узбірацца па трухлявых прыступках наверх.

Хада яго была зморанай, няпэўнай, яна красамоўна сведчыла аб яго душэўным стане.

Нясмела пастукаў у дзверы і ўвайшоў.

Жанчына стаяла ля стала. Яна прапанавала яму сесці. Яе сухія, празрыстыя рукі зніклі недзе ў рукавах.

Палонны, саромячыся, сеў. Глядзеў навокал здзіўленым позіркам.

Жанчына на хвіліну вышла.

Вярнуўшыся, яна паставіла ля яго талерку, паклала нож і відэлец, белую сурвэтку.

Паглядзела на яго.

— Можа, ты і забіў яе. Можа, якраз ты. Можа...

— Я... хлеб... прашу... Трэба ісці...

— Сядзі, сядзі, няма куды табе ісці. Дамоў не можаш, яшчэ вайна. Трэба, каб і ты хоць крыху адчуў сябе чалавекам. Сядзі, сёння свята.

Жанчына задумалася.

— Калісьці мая Анка ў гэты дзень скакала ад радасці: гэта самае любімае яе свята. А цяпер? Ох, гора людское, што нарабіла вайна!

Яна вышла. Праз хвіліну вярнулася, несучы поўную талерку.

Паставіла яе на талерку, што прынесла раней. Потым прынесла другую з пампушкамі, белымі, як снег. Незадоўга да свята ў краіну прывезлі крухмальную муку.

Чалавек глядзеў на кавалак мяса і вараныя яйкі, якія ляжалі перад ім, і вочы яго прагна блішчалі і расшыраліся. Яны не хацелі падпарадкоўвацца чалавечай волі, хоць тая прымушала іх глядзець на жанчыну. Голад быў мацней за волю. Чалавек пачаў заікацца.

— Я... ппа-ні... дзякую...

Жанчына, прымушаючы сябе, усміхнулася.

— Сёння свята. Свята... А можа, гэта ты яе...

На яго твары прамільгнула задавальненне. Можа, ад таго, што ён даведаўся пра свята. А можа, таму, што ён бачыў ежу. Можа, ён забыўся, што трэба есці пры дапамозе відэльца і нажа. А можа, ён ніколі і не вучыўся карыстацца імі. Людзі пра тое не ведаюць.

Жанчына зноў стомлена ўсміхнулася. Прапанавала яму есці, а сама крыху адышлася.

Яна глядзела, як ён прагна глытае.

Вышла. Вярнулася, несучы нешта ў талерцы і яшчэ штосьці, не ежу, у другой руцэ.

Паставіла перад ім.

— Вось, яе ў мяне забілі. Адабралі ў мяне ўсё, што мела, што мне бог даў. Таму мне і няма з кім сёння святкаваць. Вось глядзі...

Яна паказала яму левай рукой на фотакартку. Правая яе рука сударгава мацала стол.

Ён перастаў есці і паглядзеў.

— О... цудоўная... дзяўчынка...

Паказаў пальцам, быццам пытаючыся: — «Ваша?»

Жанчына пацвердзіла, схіліўшы галаву.

— Так, прыгожая была. Яшчэ зусім маладая. І так рана згубіла і прыгажосць, і жыццё, і маці адну пакінула. Прыгажуня была, як ранішняя зорка. І расстралялі яе пад раніцу.

Яна гаварыла аднастайным, ціхім голасам, пяшчотным і прыемным; здавалася, жанчына засмучона тым, што яе дачкі няма тут і яна не дапускае думкі, што дачкі няма ў жывых.

Сухі твар жанчыны застыў у здрантвенні. У яе вачах не было пробліскаў жыцця, яны патухлі ад адзіноты і гора. Яна прадаўжала:

— Яна лепш за ўсіх на вуліцы рыхтавалася да свята. І пірагі яе былі смачнейшыя. Усе яе любілі. І яна ўсіх любіла. А цяпер... цяпер яе няма. І свята няма...

Жанчына спадзявалася, што ён яе разумее. Палонны лагодна ківаў галавой і ніяк не мог дачакацца, калі можна будзе прадаўжаць есці. Яна заўважыла гэта і падсунула яму другую страву.

Чалавек пачаў есці. Ён еў прагна, глытаў амаль непаражаваныя кавалкі.

— Вось бачыш, галодны. Усе мы галодныя. А забіваць больш не будзеце. І вайна канчаецца. Усё зноў будзе добра. Толькі я застануся бабылка. І свята мне будзе не святам. Кожны будзе мець сям'ю, усе будуць весяліцца, а маю сям'ю, маю адзіную...

Старая маці ўсхліпнула. На вачах яе заблішчалі слёзы.

Палонны гэта заўважыў. Ён перастаў есці.

— У вас... няма... дачкі?

— Была.

Яна паставіла на стол фатаграфію дачкі, потым выцягнула наперад рукі, паказваючы, быццам у яе руках вінтоўка і яна цэліць у фатаграфію.

Чалавек зразумеў. Ён спахмурнеў. Цяжка глытнуў паветра, падняўся. Узяў жанчыну за руку.

— Я... прашу вас...

Ён спрабаваў знайсці словы спагады, але не змог, захваляваўся, пачырванеў і змоўк, не ведаючы, што рабіць.

Раптам ён сунуў руку ў кішэню, выцягнуў адтуль невялічкую картачку.

Сівая бабулька глядзела з фатаграфіі.

Настала цішыня.

— Двух сыноў... страціла... два мае браты...

Ён гаварыў голасам, поўным журбы.

Жанчына паглядзела на яго.

— Многіх дзяцей няма...

Яна паклала яму свае рукі на плечы і памацярынску пяшчотна папрасіла:

— Садзіся, сынок. Сёння свята. Садзіся. Ты жывы — твая маці шчаслівая... Пасядзі крыху...

Яе голас надламіўся. Салдат узяў крэсла і паставіў яго побач з ёю. Яна села. Сеў і ён. Ён асцярожна ўзяў яе маршчыністую руку і пяшчотна пацалаваў.

Вакол было ціха, ціха.

**Пераклад з сербскай мовы**
**А. ГРЭЦКАГА.**



# Што думаюць пра вас хлопцы?

## Падумайце і аб сабе

Мы вельмі ўважліва прачыталі адкрыты ліст аршанскіх рабочых «Што думаюць пра вас хлопцы». Скажам наперад, што нам спадабаўся гэты ліст. Спадабаўся шчырасцю, вастрынёй узнятых у ім пытанняў. Праўда, павінны адразу-ж агаварыцца, што далёка не ўсё тое, аб чым пішуць аршанскія хлопцы, здаецца нам правільным.

Сапраўды, не перавяліся яшчэ дзяўчаты, якія лёгкадумна адносяцца да кахання, якія выходзяць замуж па разліку. На гэтай глебе распадаюцца сем'і, бо яны нетрывалыя. І сярод нас, пашукаўшы, знойдзеш такіх дзяўчат, якія выходзяць замуж па правілу «сцерпіцца-злюбіцца». А жыццё пасля жорстка помсціць за такі лёгкадумны крок.

На нашым заводзе працуе маладая работніца С. Яна выйшла замуж за рабочага В. Пайшла не таму, што шчыра кахала гэтага хлопца. В. падабаўся вельмі многім, яго хвалілі, ставілі ў прыклад. І С. вырашыла выйсці замуж, кіруючыся адным толькі пачуццём самалюбства. Ёй падабалася, што іменна да яе, а не да каго-небудзь іншага заляцаецца гэты агульны любімец. А цяпер у сям'і нелады.

Можна сустрэць у нас і такіх дзяўчат, якія, як пішаце вы, забяспечваюць сябе «запаснымі ігракамі». Але нам здаецца, што вінаваты ў такіх рэчах не адны толькі дзяўчаты. Большая доля віны кладзецца на вас, хлопцаў. Гэта-ж праўда, што часцей за ўсё хлопец першым гаворыць пра сваё пачуццё, робіць першы крок. І гаворыць не заўсёды шчыра.

Адна наша знаёмая Яня К. працуе прадаўшчыцай у магазіне. З ёю доўгі час гуляў шафёр Дзімітрый Н. Ён кляўся ў каханні, гаварыў, што жыць не можа без дзяўчыны. Яні моцна падабаўся Дзіма і яна вырашыла выйсці за яго замуж. Жылі яны спачатку добра. Але вось Яня захварэла, і яе муж адразу пачаў хадзіць да другой. Ці-ж было тут сапраўднае каханне? На нашу думку, тут быў толькі разлік і больш нічога.

Вось яшчэ адзін прыклад. Малады хлопец С. жаніўся з дачкой палкоўніка Валяй. Яму падабалася не столькі Валя, колькі палкоўніцкая кватэра і іншыя матэрыяльныя выгады. Але не ў кватэры-ж сапраўднае шчасце! Цяпер С. часта прыходзіць дамоў п'яны і нават б'е сваю жонку, якая ні ў чым не вінавата.

Нам здаецца, што лёгкадумных адносін да кахання, да сям'і якраз больш сярод хлопцаў, чым сярод дзяўчат. Рабочы нашага інструментальнага цэха Вячаслаў Х. мае толькі вядомых нам восем «каханых». Дваім з іх ён піша лісты ў Харкаў, а з шасцю сустракаецца тут, у Мінску. Як ён іх не блытае, незразумела.

Але, бадай, самы вялікі ваш грэх, таварышы хлопцы, той, што вас спакушае часцей за ўсё свежы, маладзенькі тварык. Жэніцца такі саракагадовы дзядзька з дваццацігадовай і думае, што ашчаслівіў яе. Дзе ўжо тут тое шчасце? Наш рабочы Андрэй З., якому зараз 32 гады, кінуў жонку з дзіцем і ажаніўся з дваццацігадовай. Ажаніўся таму, што яму падабаўся прыгожы тварык, чароўная ўсмешка. А цяпер лемантуе: маладая жонка толькі і ўмее, што фарбаваць губы і наводзіць манікюр.

Вы, канешне, маеце рацыю, калі пішаце, што многія дзяўчаты імкнуцца апрануцца звышмодна, носяць пудзілападобныя прычоскі, страшэнна стракатае адзенне. Наша работніца Тамара Маслава па многіх прыкметах з'яўляецца адной з тых, каго вы крытыкуеце. Яна заўсёды «крыклівa» апранаецца і пад тоненькую стрэлачку вышчыпвае бровы. Гэта, канешне, дрэнна. Але яшчэ горш тое, што такія звышмоднiцы вельмі часта і падабаюцца хлопцам. Ды і сярод вас, хлопцаў, шмат стыляг. Ходзіць такі ў касцюме з шырачэзнымі плячамі і ў штанах-дудачках, аж глядзець смешна.

І апошняе, пра што мы хочам сказаць, дык гэта пра абеды. Сярод нас, рабочых дзяўчат, бадай, не знойдзеш такіх, якія не ўмелі-б згатаваць абед, памыць бялізну. Белаunion часцей трапляюцца ў тых сем'ях, дзе ёсць домработніцы і розныя там нянечкі. А ўрэшце, таварышы хлопцы, крыўдуйце самі на сябе. Такое пытанне — умее ці не ўмее дзяўчына згатаваць абед — вельмі лёгка можна высветліць і да вяселля. Другая справа, што, ажаніўшыся, многія з вас імкнуцца ўскласці на вузкія жаночыя плечы ўсю хатнюю работу. А жонкі-ж вашы, як і вы, часцей за ўсё таксама працуюць. Так што трэба іншы раз і дапамагчы, нічога благога ў гэтым няма.

Зінаіда ШАЎЦОВА,
Святлана ЕЎЦЮХОВА,
Тамара КУЗЬМІНКОВА,
рабочыя Мінскага гадзіннікавага завода.






Дзе мы? Што гэта за машына?

На верхнім здымку — спецыяльны тэлескоп з тысячакратным павелічэннем для арганізацыі тэлеперадач на астранамічныя тэмы. Такі адзіны ў свеце тэлескоп зроблены ў Мюнхене па заказу Баварскай студыі тэлебачання.

Унізе вы бачыце верталёт канструкцыі Вальтэра Шлiске. Ён называецца «Лібела». Яго вінт прыводзіцца ў рух рэактыўным рухавіком. Каркас зроблены з бамбука, а кабіна для пілота — з плексігласа. Заходнегерманскія фірмы збіраюцца наладзіць серыйную вытворчасць верталётаў для продажу насельніцтву. Таленавіты нямецкі народ! Вельмі шкада, што ўрад Адэнаўэра зноў штурхае сваю краіну на вайну. Колькі пойдзе на гэта сродкаў, якія можна было-б выкарыстаць для мірных мэт.

А цяпер — на старонку 19.



## Дзе шукаць настойлівасць?

У адказ на пісьмо маладых рабочых «Што думаюць пра вас хлопцы» мы хацелі-б сказаць некалькі слоў пра тое, як важна не памыліцца ў каханні.

Вясна ў жыцці чалавека бывае адзін раз. Гэта — пара першага, шчырага кахання, пара светлых надзей і вялікіх мараў. Наступае гэтая вясна ў юнацтве, у маладыя гады, і пакідае глыбокі след у душы на ўсё жыццё.

Вельмі крыўдна і балюча глядзець на расставанне маладых людзей, каханне да якіх прыйшло ўпершыню.

На адну будоўлю Мінска прыйшоў дэмабілізаваны Іван Л. Яго прызначылі прарабам. Аб'ект хлопцу дастаўся цяжкі. Але малады прараб укладваў у работу ўсю сваю душу, і справы паступова пачалі паляпшацца. Прайшло некалькі месяцаў, і пра Івана Л. пачалі гаварыць, як пра найлепшага арганізатара. Рабочыя любілі і паважалі Івана.

На будоўлю часта заходзіла інжынер-хімік з лабараторыі Рыта К. Івану вельмі падабалася разумная, абыходлівая дзяўчына, якая да таго-ж любіла будаўнічую справу. Хлопец пачаў шукаць усялякіх падстаў, каб сустракацца з Рытай.

Так прыйшло першае каханне. Іван доўга таіў яго ў сабе і нарэшце наважыўся прызнацца. Аднойчы на маладзёжным вечары ён нясмела прапанаваў Рыце станцаваць. Рыта адмовілася. Але вось да дзяўчыны ўпэўненай паходкай падышоў хлопец у пярэстым гальштуку, і Рыта цэлы вечар танцавала з ім.

Дамоў ішлі цэлай кампаніяй. Рыце трэба было збочваць першай. Іван хацеў правесці яе, але дзяўчына сказала, што не трэба. Хлопец развітаўся і пайшоў. Рыта-ж вырашыла, што Іван бязвольны, мяккацелы чалавек, і з гэтага часу пачала ўхіляцца ад сустрэч з ім.

Хутка Рыта пазнаёмілася з маладым інжынерам Паўлам С. Да гэтага яго бачылі з многімі маладымі дзяўчатамі. Рабочыя даўно яго раскусілі і не любілі, як чалавека лёгкадумнага і разбэшчанага. Праз некалькі вечароў Павел С. расказаў Рыце аб сваім «каханні» да яе. Ён прасіў, каб яна загадала яму ісці за яе ў агонь і ваду. (Рыта, вядома, нікуды ісці не загадала.)

Дзяўчына пакахала Паўла, не ведаючы, што ён за чалавек. Невядома, чым закончыўся-б гэты раман, каб не ўмяшаліся сябры Рыты. Яны раскрылі дзяўчыне вочы, паказалі сапраўдны твар яе каханага.

Іван страшэнне цяжка перажываў ад свайго няўдалага кахання. Не лягчэй было і Рыце. Яна нават хацела пераехаць у другі горад. Не перажываў толькі Павел. Праз тыдзень яго ўжо бачылі з другой дзяўчынай.

Прывёўшы гэты выпадак, мы хацелі сказаць толькі тое, што дзяўчаты іншы раз адхіляюць сапраўднае каханне і за чыстую манету прымаюць прызнанні фальшывых, разбэшчаных людзей. Здараецца гэта таму, што ўяўная настойлівасць прымаецца за сапраўдную рысу характару. Настойлівасць, энергічнасць, канешне, вельмі важныя якасці чалавека. Але ці ў каханні трэба шукаць гэтых якасцей? Нам здаецца, што куды больш праяўляюцца гэтыя рысы характару ў рабоце, у грамадскай дзейнасці.

А. ХАЦКЕВІЧ,
інжынер Мінгорсельбуда БССР,
К. ХАЦКЕВІЧ,
работнік сувязі.



# Чарнільная пляма

Яўг. КРУПЕНЯ, Б. ПАЎЛЁНАК

Мал. Наталлі Лебедзевай.

Вы, вядома, памятаеце, як Лёха ў мінулую сесію праваліў экзамен па заходняму мастацтву? Я, праўду кажучы, думаў, што на гэты раз ён возьмецца за розум. Ні блізка!..

За дзень да экзаменаў ён, як вецер, уварваўся ў мой пакой:

— Радуйся! Мы перамаглі!

— Хто мы? Каго перамаглі?

— От, дзівак! Мінскі «Спартак» сёння гуляў з «Металургам». Тры — нуль у нашу карысць! Радуйся!

— Эх, Лёха, Лёха! Заўтра-ж экзамен, а ты... Думаеш, што і на гэты раз удасца загаварыць зубы Іллю Іванавічу?

— Не бойся, будзе поўны парадак. Сёе-тое я, вядома, кумекаю, а там — шпаргалка-выручалка...— ён вырваў з маіх рук кніжку.—Ды кінь ты зубрыць! Хадзем пагуляем. У парку зараз паветра, траўка, птушкі... Гэтак пасядзім з гадзінку, дык ведаеш, якая геніяльная лухта палезе ў галаву... Хадзем.

Я адмовіўся.

Раніцай мяне разбудзіў назойлівы трэск будзільніка. Мыючыся, я ўспомніў пра экзамен. І мне чамусьці вада здалася гэткай халоднай, што дрыжыкі пабеглі ад патыліцы да пятак...

І раптам — стук у дзверы. Так стукаюць глухаватыя паштальёны ці шчаслівчыкі, якія спяшаюцца, каб падзяліцца радасцю з прычыны таго, што ўдалося падпісацца на бібліятэчку «Свет прыгод». Я адчыніў дзверы. Перада мной, засунуўшы рукі ў кішэні, стаяў Лёха.

— Шпаргалак назапасіў?— замест прывітання спытаў ён.

— Не, хопіць з мяне мінулага экзамена...

— Ну і дурань! Ды, між іншым, я вялікадушны! — Паляпаўшы мяне спагадліва па плячы, Лёха дазволіў: — Добра, сядай на экзамене поплеч. Выручу... А зараз — у дарогу. Трэба яшчэ даведацца, у якой аўдыторыі здаем. Памятай сяброўскую параду: сядай у цямнейшы куток.

...Дзевяць разоў бомкнуў старасвецкі гадзіннік у вялізным вестыбюлі, і экзамены пачаліся. Мы з Лёхам адказвалі амаль апошнімі. Я, шчыра кажучы, невялікі смяльчак, а тут зусім напалохаўся: вельмі-ж многа было ў той дзень пастаўлена двоек і троек. Але што папішаш! Хоць не ў зусім бадзёрым настроі, але давялося пераступіць парог аўдыторыі.

Узяўшы білет, я акрыяў: матэрыял трапіўся знаёмы. А вось Лёха нечага маўчыць. Зірнуў я скоса на яго і бачу: Ілля Іванавіч, ведаючы лёхавы звычкі, не спускае з яго вачэй, а той, нібы не заўважаючы гэтага, разглядае рудаваты падцёк на стале. Відаць, неважнецкія ў яго справы.

— Хто падрыхтаваўся адказваць? — пытае прафесар.

«Трэба выручаць хлопца,— падумаў я. і падышоў да стала. Я нават не памятаю цяпер, што і як я адказваў, але ўвогуле, здаецца, расказаў усё, што трэба было. Неспадзявана я атрымаў чацвёрку. Разумееце, чацвёрку з першага заходу!

Лёха застаўся адзін-на-адзін з Іллёй Іванавічам.

Прайшло поўгадзіны, гадзіна, а Лёха ўсё не выходзіў з аўдыторыі. Але вось дзверы шырока расчыніліся, і я ўбачыў прыяцеля.

— Як? — спытаў я.

— Абдурыў старога! — выдыхнуў Лёха. — Класічна абдурыў! — А потым заклапочана:— У цябе ёсць нашатырны спірт?

— Навошта?— здзівіўся я.

— Ды вось,— Лёха паказаў рукаў пінжака, запэцканы ў чарніла,— чысціць трэба.

— Як гэта табе пашэнціла?

— Тактыка!— падміргнуў Лёха.— Пасля раскажу. Дык няма спірту? Ну, вось што: я пабягу ў аптэку, а ты, брат, чашы ў кіно, бяры білеты і чакай мяне ля ўваходу. Я ўмомант...

Да пачатку сеанса заставалася не болей пяці хвілін, калі я атрымаў два білеты. Я думаў, што Лёха стаіць ужо ля ўваходу і праклінае той час, калі яму ўздумалася даручыць мне такую адказную справу, як набыццё білетаў. Але пры ўваходзе яго не было. Давялося чакаць.

Затрашчаў званок, даючы знаць, што да пачатку сеанса засталося некалькі хвілін. Следам за першым пачуліся яшчэ два званкі. У фае патухла святло. Сеанс пачаўся.

Я хацеў прадаць ужо білеты і ісці дахаты, як заўважыў Лёху. Ён павольна ішоў да кінотэатра, высвістваючы нейкі вясёлы матыўчык.

— Хутчэй! Познімся!— крыкнуў я.

— Паспеем,— флегматычна адгукнуўся Лёха.— Вялікая бяда, калі хроніку не паглядзім.

Ад яго тхнула нашатырным спіртам.

Ледзьве прабіліся ў цемры да сваіх месц. Лёха ішоў першым, натыкаўся на гледачоў. Мне нічога не заставалася рабіць, як паўтараць адно слова: «Вінават... Прабачце... Вінават!..» Нарэшце, знайшлі свае месцы і паселі.

— Ну, дык вось,— Лёха нахіліўся да мяне,— наконт тактыкі...

Нехта ззаду забурчаў:

— Чорт іх прынёс сюды! Увесь экран засланілі. Слухайце, сядзьце лепей!

Агрызнуўшыся, Лёха прыгнуўся ніжэй і, амаль дакранаючыся ілбом да спінкі крэсла пярэдняга раду, з запалам пачаў расказваць мне пра тое, як яму ўдалося абдурыць Іллю Іванавіча.

...— Ну, брат, свідруе мяне Ілля вочкамі,— гудзеў аднекуль з-пад крэслаў лёхаў бас. — Загінуў, думаю. І раптам думка. Ты разумееш, якая думка цюкнула ў галаву. Проста, скажу табе, геніяльная...

— Цішэй там нельга?! — цыкнулі на нас суседзі.

Лёха, амаль шэпчучы, працягваў:

— ...І тады я, нібы неспадзявана, абярнуў чарніліцу. Бачыў, які рукаў быў? Ну, пэўне, што чысціць трэба. Я апускаю руку ўніз, раблю заклапочаны выгляд і тым часам дастаю шпаргалку...

Глядач, што сядзеў спераду, закоўзаўся на месцы так, што затрашчала крэсла і мне здалося, што ён уважліва прыслухоўваецца да нашай размовы. Аднак Лёха, захоплены размовай, не заўважаў гэтага. Калі на экране з'явілася Laліта-Торэс, неспакойны сусед злева рэзка сказаў:

— Сціхніце вы, хлопцы! Не перашкаджайце карціну глядзець.

Лёха змоўк, так і не скончыўшы расказваць пра шпаргалку.

Калі скончыўся сеанс і загарэлася ў зале святло, Лёха забубніў:

— Ну, дык вось, дастаю я шпаргалку і бачу...

Што там убачыў Лёха, я так і не даведаўся, але ў гэты момант ён убачыў Іллю Іванавіча. Той стаяў поплеч, аддзелены ад нас толькі спінкай крэсла.

— Ну, ну, маладыя людзі,— праказаў ён, надзеючы капялюш,— як вам удалося абдурыць старога? Расказвайце, расказвайце...—І, зірнуўшы на нашы скамянелыя фігуры, дадаў:— Ды вы не хвалюйцеся. Што прайшло, таму не быць... Я ацэнку змяніць ужо не змагу, так што расказвайце ўсё, як было... Ну...

— Ды што... увогуле... Разумееце... Ілля Іванавіч... Даруйце... Я, уласна кажучы, усё ведаю... Але так... для самакантролю шпаргалку выцяг...— няўпэўнена пачаў апраўдвацца Лёха...

— Мяне сам працэс цікавіць,— перабіў Лёху Ілля Іванавіч.— Я-ж сам калісь быў студэнтам. І проста хачу ведаць, ці далёка наперад пайшла тэхніка шпаргалак. А што датычыць вас, малады чалавек, дык, нажаль, я сваёй ацэнкі змяніць ужо не змагу. Ведамасць падпісана і здадзена ў дэканат. Дык вы не саромейцеся, расказвайце.

І Лёха, як-бы прыціснуты да сцяны, пачаў падрабязна расказваць сакрэт шпаргалкі. Ілля Іванавіч слухаў яго з іранічнай усмешкай. А калі Лёха скончыў, прафесар, развітваючыся, заўважыў:

— Не забудзьцеся заўтра забраць сваю заліковую кніжку. Вы яе ад радасці пакінулі ў мяне на стале.

Ён, шырока ступаючы, пайшоў па тратуару, а мы засталіся адны са сваімі невясёлымі думкамі.

— От, цюкнула мне сказаць,— дакараў самога сябе Лёха.— Хто ведае, які трук ён зараз выкіне.





# Звычайная гісторыя

ЗАПІСКІ ПІОНЕРВАЖАТАГА

**22 верасня.**

Ідучы ў школу, я ўбачыў вучня VI класа Мішу Б. Ён разам са сваімі сябрамі ганяў па вуліцы футбольны мяч. Замест варот ім служылі пакладзеныя на зямлю сумкі з кнігамі і шапкі. Сябры Мішы — вучні першай змены нашай школы. Ёсць тут і вучні з другой школы. Яны, як і Міша, за гульнёй забыліся пра ўсё на свеце.

— Міша, чаму ты не ў школе? — пытаю.

Пачуўшы мой голас, ён прыпыніўся на момант, зірнуў на мяне, але не было калі гаварыць: варотам пагражала небяспека. Ён кінуўся наперарэз футбалісту, які прарваўся на іх поле, і трапным ударам выбіў мяч за лінію варот.

Міша мне падабаўся ў гэты момант. Падабаўся сваім спрытам, сваёй воляй. Але рабіць тут мне не было чаго, і я пайшоў.

Што-ж зрабіць, каб Міша добра вучыўся? Гэтае пытанне хвалявала не толькі мяне, над ім задумваліся ўсе настаўнікі школы. Такія, як Міша, былі ў кожным класе. Іх выклікалі ў настаўніцкую, пра іх гаварылі на педсаветах, на камсамольскіх сходах і піонерскіх зборах. А відавочных вынікаў не было.

Так і з Мішам. Нядаўна маладая выкладчыца замежнай мовы Людміла Сцяпанаўна зайшла ў настаўніцкую ледзь не плачучы: Міша сарваў урок. Мяне клічуць да дырэктара. Прыходжу. Там і Міша.

— Палюбуйцеся на яго... — кажа дырэктар.— Ён-жа піонер. І вось прыдзецца выключыць са школы. Я раю вам паставіць пытанне аб выключэнні яго і з піонераў.

Я гляджу на Мішу. Пасля апошніх слоў дырэктара ён ледзь прыкметна ўздрыгнуў, але не хацеў паказаць, што яго спалохалі словы дырэктара аб выключэнні. Прасіцца не стаў. Пазіраў праз акно некуды ўдалечыню. Упарты. Настойлівы. Мне ён і зараз падабаўся. Адкрыты высокі лоб, светлыя валасы, якія выгаралі за лета на сонцы, сінія жывыя вочы, у якіх свяцілася энергія і задор. Не, не можа быць, каб ён быў дрэнным. Паспрабуем за яго змагацца.

— Пётр Міхайлавіч,— парушаю я маўчанне,— дазвольце мне паабяцаць вам, што Міша больш не будзе сваволіць. Не выключайце яго пакуль са школы.

— Добра,— кажа дырэктар.— Я магу пачакаць. Але што скажа сам Міша?

Гледзячы ў вочы дырэктару, Міша сказаў:

— Больш не буду.

— Чэснае піонерскае?

— Чэснае піонерскае.

Калі мы вышлі ад дырэктара, я папрасіў Мішу зайсці пасля заняткаў у піонерскі пакой.

Міша выканаў маю просьбу. Я прапанаваў яму згуляць у шахматы. Ён быў задаволены такім паваротам справы, але трымаўся незалежна.

Гуляе ён не вельмі добра, але ў яго ходах адчуваецца смеласць. Я мог лёгка выйграць у яго, але даў яму магчымасць звесці партыю на нічыю.

Другую партыю я выйграў.

— Позна ўжо, Міша. Нам, здаецца, у адну дарогу.

Па дарозе я спытаў у яго:

— Што ты будзеш рабіць у нядзелю?

— Не ведаю.

— Давай пойдзем па грыбы. Пакліч сваіх сяброў.

Міша згадзіўся.

Мы развіталіся. Пачатак быццам-бы нядрэнны. Але я не быў задаволены сабою. Што-ж атрымоўваецца? Такі-ж Міша не адзін у школе.

Наш грыбны паход адкрыў мне многае з мішавага жыцця. Міша жыве з маткай, бацькі ў яго няма. Маці працуе. Міша дапамагае ёй па гаспадарцы. Мы, здавалася, пасябравалі. Міша сумленна прызнаўся, што дома ўрокі вучыць мала, а каб сядзець было не сумна, займаецца ўсякімі пабочнымі справамі.

**16 кастрычніка.**

Я прапанаваў старшыні совета атрада і звеннявому даручыць Мішу якую-небудзь работу. Мне здавалася, што ён усё-такі будзе даражыць даручэннем. Выпадак, калі Міша пакінуў заняткі і пабег адстайваць гонар сваёй каманды, прымусіў зірнуць на яго па-іншаму. Да гэтага часу мы лічылі, што ён нічым не цікавіцца, а толькі і ўмее, што дысцыпліну парушаць, сваволіць і крыўдзіць дзяўчынак.

Міша быў здзіўлены даручэннем. Я заўважыў, як у яго вачах загарэліся агеньчыкі цікаўнасці.

Совет сабраўся пасля заняткаў. Старшыня совета Таня паведаміла, што вырашана назначыць Мішу інструктарам па спорту ў нашым атрадзе.

Міша падхапіўся.

— Што? Вырашылі? Без мяне? Не, я не згодзен. Самі займайцеся. Я не хачу, каб мной дзеўкі камандавалі.

Устаў і вышаў.

**24 кастрычніка.**

А вучыцца Міша ўсё-ж не хоча. Як і раней, атрымоўвае двойкі. Хоць і не прымае ўдзелу ў спартыўных гульнях, але часта бывае на занятках. Ходзіць, наглядае, як гуляюць другія, а калі хто зробіць няправільны ход, не вытрымае, крыкне:

— Эх ты, няўмека, куды ставіш! Вось як трэба!

— А ты не крычы, а пакажы,— міралюбіва просяць яго.

— Вось яшчэ! Няхай вам Таня паказвае і вучыць.

І адыходзіць.

У нядзелю каманда футбалістаў VI «Б» класа сустракалася на стадыёне з футбалістамі сёмага класа. Міша зноў не захацеў удзельнічаць у спаборніцтвах. Але на стадыён прышоў. Для шасцікласнікаў гульня пачалася няўдала. У першай палавіне ў іх вароты сямікласнікі забілі тры мячы, не прапусціўшы у свае ніводнага. Міша, бачачы паражэнне, месца сабе не знаходзіў. Крычаў, пагражаў, падганяў сваіх. Ледзь стрымліваўся, каб не выбегчы на поле. І не вытрымаў. Як толькі забілі трэці гол, выскачыў на сярэдзіну поля, падбег да свайго нападаючага, крыкнуў:

— Ану з поля! Я вам пакажу, як трэба гуляць!

Але тут пачуўся свісток, абвясціўшы, што першы тайм закончаны.

Пасля адпачынку замену ў камандзе аб'явілі афіцыяльна. Гульня адразу набыла востры характар, адчувалася прысутнасць Мішы.




**Мы ў Галандыі. Амстэрдам. Сёння мы агледзім толькі славутыя кветкі гэтага старадаўняга горада. Кветкі, якія вы бачыце, не штучныя. Амстэрдам — горад кветак. Тут вырошчваюць самыя рознастайныя гатункі ружаў, цюльпанаў і іншых кветак.**

**Але адыйдзіцеся крыху далей ад гэтага месца, дзе прадаюць кветкі. Там вы можаце сустрэць старога чалавека, які просіць міласціну.**

**А зараз—на старонку 22.**



Міша, здавалася, нічога не чуў і не заўважаў, што рабілася навокал. Ён гарэў адным жаданнем — перамагчы. Я радаваўся: нарэшце-такі і Міша разам з намі. Гульня закончылася ўнічыю, з лікам 3:3. Два мячы забіў Міша. Ён адчуваў сябе героем. Дзяўчынкі паднеслі яму букет кветак. Міша з радасцю прыняў кветкі ад Тані, крыху пры гэтым засаромеўшыся.

Радасць шасцікласнікаў была ўсеагульнай. Але сямікласнікі сапсавалі справу. Яны не маглі прабачыць Мішу яго ўдзел у гульні, так удала для іх распачатай.

— Чаго вы радуецеся, у вас-жа двоечнікі гулялі. Яны ўрокі не вучаць, а ўсё толькі і ганяюць мяч. Ваш Міша толькі і едзе на двойках.

Міша стаяў бледны і разгублены.

Па дарозе дамоў я стараўся быць разам з Мішам.

— Табе трэба лепш вучыцца,— сказаў я.— Нельга стаць сапраўдным чэмпіёнам, спартсменам, калі адстаеш у вучобе.

Ён прыпыніўся, паглядзеў на мяне.

— Верыце, што я магу вучыцца? Вы не жартуеце?

— Так, я ўпэўнены.

— Ну, калі так, то я ім дакажу, хто я такі. А двоечніка я ім не дарую.

**1 лістапада.**

Некалькі дзён усё ішло добра. Міша сапраўды старанна вучыўся. Добра адзываліся аб ім настаўнікі. Але нядоўгай была наша радасць.

Заходзіць да мяне Таня і, ледзь не плачучы, гаворыць:

— Міша пісьмовыя работы ніколі дома не выконвае, кожны раз перапісвае іх у школе. Тых, хто не дае спісаць, ён б'е.

Мне раяць правесці збор атрада, абмеркаваць на ім вучобу і паводзіны Мішы. Збор — добрая справа, але не ўсякі збор можа тут дапамагчы. Тут патрэбна ўжыць нейкі новы метад, больш дзейсны. Але які? Раней на зборы Міша амаль не заставаўся. Чаму? — ён і сам не мог растлумачыць. Не хацеў — і ўсё, нецікавымі для сябе лічыў зборы. А як зрабіць, каб яны былі цікавымі?

**11 лістапада.**

У нядзелю збіраемся ў школу. Прышлі члены совета атрада VI «Б» класа, звеннявыя, важатая атрада Надзя. Думаем схадзіць да некаторых піонераў дамоў.

Наважылі спачатку наведаць Мішу.

Да Мішы мы ўсе не пайшлі. Са мной пайшлі толькі некалькі хлопчыкаў, у тым ліку і Жэня, мішаў сябра.

Мы зайшлі ў мішаву хату. У яго засталі некалькі сяброў з другой школы. Маці дома не было. Хлопчыкі сядзелі, схіліўшыся над вялікім лістом паперы і нешта на ім пільна разглядаючы. Размова, відаць, паміж імі мела не зусім дружалюбны характар. Калі мы ўвайшлі, то яны ўсё яшчэ доўга не маглі супакоіцца, цяжка дыхалі і кідалі адзін на другога не вельмі добразычлівыя позіркі.

— Вы да мамы? — запытаў Міша.— Яе няма дома.

— Не, мы прышлі да цябе. Ішлі міма, успомнілі, што ты тут жывеш — вырашылі зайсці, адведаць.

Хлопчыкі, аказваецца, разглядалі чарцяжы радыёпрыёмніка. Міша стаяў за тое, каб збіраць адразу лямпавы прыёмнік, а яго сябры хацелі пачынаць з дэтэктарнага.

Я сядзеў каля акна, хлопцы абступілі мяне. Жэня, які не прымаў удзелу ў нашай гутарцы, стаўшы на калені, разглядаў схемы, але хутка чыстасардэчна прызнаўся:

— Нічога я тут не разумею: усё нейкія лініі, рыскі.

— Дзе табе зразумець,— адазваўся Міша. Потым дадаў:— Хочаш — навучу,— і на мяне глянуў крадком.

Я зрабіў выгляд, што не заўважыў.

— Праўда, навучыш? — ажывіўся Жэня.

Вельмі добрая гутарка атрымалася. З гэтага, відаць, і давядзецца пачынаць сваю работу па стварэнню калектыву, а прыёмнікі — гэта тое, што можа з'еднаць усіх нашых хлопчыкаў. Для дзяўчынак мы знойдзем іншую справу. Міша можа аказаць нам добрую паслугу і сам уцягнецца ў работу. Мне стала зразумела яшчэ адна рыса характару Мішы: ён не ведае сваіх сіл, за ўсё хапаецца, хоча рабіць нешта вялікае, сур'ёзнае, складанае, але да такіх спраў яшчэ не падрыхтаваны, церпіць няўдачы, а таму хутка астывае і ўсё яму хутка надакучвае. Але яго нястрымная натура заўсёды патрабуе якога-небудзь занятку.

**(Працяг будзе)**

**П. НЕСЦЯРОВІЧ,**
**піонерважаты Бярэзінскай сярэдняй школы Мінскай вобласці.**



Упершыню ў беларускім фільме здымаецца вядомая кіноактрыса Ала Ларыёнава.



Зараз прагучыць каманда: «Пачалі!» — і народны артыст БССР Н. Рахленка, які выконвае ролю пана Івана, з народным артыстам СССР Ул. Уладамірскім (Багдан) разыграюць перад аб'ектывам кіноапарата чарговы эпізод будучага фільма.

У гэтым эпізодзе заняты тры лепшыя беларускія акцёры: народныя артысты СССР Г. Глебаў, У. Уладамірскі і народны артыст БССР Н. Рахленка. Г. Глебаў выконвае ў фільме ролю камічнага няўдачніка пана Антонія.



У будучым фільме ёсць работа і для «чатырохногіх» артыстаў — у эпізодзе мядзведжага палявання былі «заняты» мядзведзі вядомага дрэсіроўшчыка Івана Рубана. У вольную хвіліну ўся група збіраецца каля самай «юнай» удзельніцы фільма — мядзведзіцы Машкі. Яна будзе здымацца ў хаце лесніка Рамана.

Фото М. Равіча.

## НА ЗДЫМКАХ НОВАГА ФІЛЬМА

Аб далёкім мінулым нашага народа расказвае апавяданне В. Караленкі «Лес шуміць», названае ім «палескай легендай». Сюжэт апавядання просты і паэтычны: малады хлопец, «вольны казак» Апанас, пакахаў прыгонную дзяўчыну Аксану. Але гэтая дзяўчына спадабалася пану Івану. І загубіў пан светлае каханне — абняславіўшы Аксану, ён сілком аддае яе ў жонкі свайму лесніку Раману. Канчаецца апавяданне забойствам злога пана.

Дзеянне апавядання адбываецца ў дрымучых палескіх лясах. «У гэтым лесе, — задушэўна і ўсхвалявана піша аўтар, — заўсёды стаяў шум — роўны, працяглы, як адгалосак далёкага звону, спакойны і невыразны, як ціхая песня без слоў, як далёкі ўспамін аб мінулым».



Цяпер на кіностудыі «Беларусьфільм» па матывах апавядання В. Караленкі пачаліся здымкі новага мастацкага фільма «Лес шуміць».

Ставяць і здымаюць новы фільм маладыя беларускія кінематаграфісты: рэжысёры Пятро Васілеўскі і Мікалай Фігуроўскі, аператар І. Пікман, мастакі В. Белавусаў і А. Грыгар'янц. Музыку і песні, тэкст якіх напісаў паэт Максім Лужанін, піша для фільма кампазітар І. Любан.

У фільме заняты вядомыя беларускія і рускія акцёры.

Зараз у раёне Вільнюса вядуцца натурныя здымкі панскага замка, старой вёскі, кірмашу і інш.

У канцы гэтага года беларускія гледачы змогуць убачыць на экранах кінотэатраў рэспублікі кінорасказ па твору вялікага пісьменніка В. Караленкі.



**Першая адзнака.**

Фото С. Чырэшкіна.





## У Народнай Рэспубліцы Балгарыі

На здымках: **Помнік героям абароны Шыпкі, які размешчаны на месцы былых баёў.**

Справа — **унутраны двор Рыльскага манастыра, буйнейшага помніка архітэктуры X стагоддзя. Манастыр у перыяд турэцкага панавання з'яўляўся важным культурным цэнтрам Балгарыі.**

Унізе — **адно са збудаванняў магутнай энергасістэмы, якая будуецца ў Балгарыі. Водасховішча імя В. Каларава знаходзіцца на вышыні 1600 м.**

Фото Д. Бальшова.

# У ДОЛНАБАНСКАЙ ДАЛІНЕ

**Васіл ДРАГАНАЎ**

**Гэты артыкул па просьбе рэдакцыі быў прысланы з Сафіі.**



Злева направа: **даярка Йарданка Чарашарава, цялятніца Надка Бонева і даярка Віялета Зашкева ў чырвоным кутку фермы.**

Калісьці, наносячы на карту Долна Баню — іхтыманскую, географы паставілі маленькую чорную кропку. Ёю яны адзначылі, што на левым беразе ракі Марыцы, у палях легендарнай Рылы-планіны *, ёсць сяло з некалькімі сотнямі жыхароў. Але якім было жыццё гэтых людзей — аб гэтым ледзь прыкметны тапаграфічны значок нічога не гаварыў. Пра гэта расказваюць старэйшыя долнабанчане.

З векапомных часоў горныя вяршыні над сёламі Раўнічал, Сіўрыкая, Тапуклія аж да самага Ібра і Белмекена апрануты высокімі хвойнымі лясамі. Здаўна мужчыны Долнабанскай даліны славіліся як вядомыя майстры-лесарубы. Вясной і летам яны пілавалі гэтыя векавыя сосны і елкі, а як толькі пачыналася восень, на сваіх знясіленых конях вывозілі кражы на лесапільні.

Долнабанскія жанчыны летам драўлянымі плугамі калупалі вузенькія палі, сеялі боб, жменьку кукурузы і аўса, садзілі бульбу, каб як-небудзь пракарміцца, а зімою пралі, ткалі саю ** і палотны, каб апрануць сваіх гаспадароў-лесарубаў.

З бацькамі пакутавалі і іх дзеці. Хлопчыкі ўставалі на золку, бралі сякеры і ішлі з дарослымі ў горы, на цяжкую працу. Дзяўчынкі пасвілі авечак і коз, разам з маткамі неслі цяжар хатняй працы.

Працавітасцю славіліся горцы, але ў іх дамах, пад цяжкімі каменнымі дахамі, нічога не было. Не было канца-краю гаротнай нястачы ў гэтым казачна прыгожым краі. Тут горы, лесапільні і нават сякеры лесарубаў былі ўласнасцю багацеяў Сярэбранікавых. Прагныя ліхвяры многія гады трымалі ў драпежных руках Долнабанскую даліну.

Як насенне, кінутае ў пульхную зямлю, узышло праўдзівае слова партыі, якое упершыню прынёс горцам стары комуністычны дзеяч Барыс Хаджысатыраў. Яшчэ ў 1905 годзе рабочыя запалкавай фабрыкі ў Касцянцы падалі сяброўскую руку долнабанскім лесарубам і разам з імі ўзнялі над Марыцай чырвоны сцяг барацьбы за праўду і свабоду, за шчаслівую долю.

Неўзабаве, калі заціхлі грымоты першай сусветнай вайны, долнабанчане вераснёўскім днём 1923 года са зброяй узняліся супраць манархафашызму. Чатыры дні трымалася народная ўлада, чатыры дні дзяўчаты ўпрыгожвалі кветкамі вінтоўкі паўстанцаў, спявалі песні пра слаўных герояў...

Але толькі другі, вялікі верасень, калі народныя мсціўцы-партызаны з дапамогай мужных савецкіх воінаў назаўсёды прагналі лютых крывасмокаў Сярэбранікавых, даў лесарубам Долнабанскай даліны сапраўднае шчасце. Аб'еднаўшы сваю маёмасць, яны заснавалі першую ў гэтым краі кааператыўную гаспадарку, якую назвалі імем сваёй перамогі — «Дзевятае верасня».

У Долна Бані сёння — добрыя грамадскія будынкі, вялікія фруктовыя сады на ўзбярэжжы Марыцы, малліннікі і ягадныя насаджэнні. Пасля 9 верасня адкрыліся гімназія, вучылішча працоўных рэзерваў, дзяржаўная дрэваапрацоўчая фабрыка; ёсць свой радыёвузел, некалькі магазінаў. Гэта ўсё долнабанчанам дала свая, народная ўлада. Яна адкрыла перад імі шырокую, светлую дарогу да забяспечанага і радаснага жыцця.

...Віялеце Зашкевай было 15 год, калі яе бацька, муляр Хрыста Зашкеў, стаў членам кааператыўнай гаспадаркі. Віялета пачала працаваць у маладзёжным звяне: акопвала, чысціла фруктовыя дрэвы, збірала ягады, сеяла кукурузу. Неўзабаве Віялету вылучылі на пасаду звеннявой. Дзяўчыне дапамагалі брыгадзір і сябры. Яе звяно ў першы год сабрала па 650 кілограмаў маліны з дэкара,* атрымала высокі ўраджай фасолі, бульбы і фруктаў.

За гэтыя поспехі акалійскі камітэт Дэмакратычнага Саюза Народнай Моладзі ўзнагародзіў маладых долнабанскіх кааператараў сцягам і грашовай прэміяй. Пра поспехі Віялеты, дачкі сялянскага муляра Хрыста Зашкева, даведалася ўся Долнабанская даліна. З яе бяруць прыклад і іншыя дзяўчаты.

Увосень Віялета Зашкева, Надка Бонева і Йарданка Чарашарава выказалі жаданне працаваць на ферме. Сяляне сустрэлі гэтую прапанову дзяўчат-звеннявых прыхільна.

Пад наглядам вопытнага жывёлавода Ніколы Васілева дзяўчаты пачалі вучыцца гадаваць жывёлу. Уставалі раней сонца, кармілі, чысцілі кароў — рабілі ўсё, як раілі ім Нікола Васілеў і ветэрынар.

Маладыя даяркі далі слова атрымаць ад кожнай каровы па 2200 літраў малака. І гэтае слова стрымалі — надаілі па 2380 літраў. Віялета ад рэкардысткі «Пенкі» атрымала 3600, а Йарданка ад каровы «Герганы» — 3500 літраў малака. Цялятніца Надка выгадавала выдатных цялят.

На нарадзе маладых жывёлаводаў акоііі даяркі Віялета Зашкева, Йарданка Чарашарава і цялятніца Надка Бонева расказалі аб сваіх поспехах, падзяліліся з іншымі вопытам. Даяркі абяцалі ў 1956 годзе надаіць па 2500 літраў малака ад каровы, а цялятніца — павялічыць да 500 грамаў сярэднесутачную прыбаўку ў вазе кожнага цяляці.

У долнабанскім земляробчым кааператыве працуе многа моладзі. У паляводстве заняты 40 юнакоў і дзяўчат, яны аб'яднаны ў тры маладзёжныя звяны.

Лепшым у кааператыве з'яўляецца звяно Методзія Брождзіна. І яно мае сваю гісторыю. У мінулым годзе Методзій скончыў ваенную службу і, вярнуўшыся ў сяло, пачаў працаваць у кааператыўнай гаспадарцы. Дысцыплінаваны і настойлівы, ён хутка заваяваў павагу ў калектыве. Члены ДСНМ выбралі яго сваім сакратаром. Моладзь разам са сваім важаком актыўна ўдзельнічае ў калектыўнай працы. Сам Методзій узначальвае звяно маладых садаводаў. Ангел Драганаў, Мітко Джамбазаў і Кіро Шыракадольскі — лепшыя працаўнікі маладзёжнага звяна. Гэтыя хлопцы закончылі сярэднюю школу і засталіся працаваць у сваёй вёсцы.

Маладыя долнабанчане заслужана могуць пахваліцца сваёй самадзейнасцю. Іх мастацкі калектыў ужо некалькі год займае адно з першых месц у акоіііі і акрузе.

Выдатны хор у долнабанчан. Большасць яго ўдзельнікаў — кааператары. Тут можна сустрэць ужо знаёмых нам Надку Боневу і Йарданку Чарашараву, Іванку Ніколаву, Ангела Драганава, Методзія Брождзіна і іншых юнакоў і дзяўчат. У драмкалектыве з поспехам і майстэрствам выступае старшыня калектыву Іван Зашаў, рахункавод Атанаска Велкава, настаўніца Марыя Папова і іншыя.

Калі вы спытаецеся ў сельскага бібліятэкара Надзежды Жмуранавай, якая праца ў Долна Бані самая цяжкая, яна, не вагаючыся, зусім сур'ёзна адкажа вам: «Праца бібліятэкара самая цяжкая». І яна мае рацыю. Сельская бібліятэка выдае прагным да асветы долнабанчанам штодзень 100—150 кніг палітычнай, мастацкай і сельскагаспадарчай літаратуры.

Чытальня — любімае месца моладзі і старых.

Пераклад з балгарскай мовы.

---

* Рыла-планіна — адзін з самых велічных горных масіваў Балканскага паўвострава.

** Род тканіны.

* Дэкар — $^{1}/_{10}$ гектара.




**Унізе пад намі Парыж. Сена. Масты ў цэнтры горада. Але мы тут не прызямлімся. Гэта мы зробім у другі раз. А цяпер выкарыстаем зручны момант, наведаем вядомага артыста Жэрара Філіпа. Ён знаходзіцца ў ГДР, дзе адбываюцца здымкі новага фільма «Тыль Уленшпігель». Рэжысёр фільма і выканаўца ролі Тыля Уленшпігеля — Жэрар Філіп (злева) і выканаўца ролі Ламе Ж. Карме наглядаюць за ходам падрыхтоўкі да здымкаў. Новы фільм будзе зроблены па аднайменнаму раману Шарля дэ Кастэра.**

**На гэтым наша падарожжа сёння заканчваецца. Пішыце нам, дзе-б вы хацелі пабываць, якія краіны хацелі-б агледзець больш дасканала.**





# Лірычная размова з сябрамі

Першая кніга маладога паэта. Колькі радасці і хвалявання прыносіць яна аўтару, які ўпершыню ступае на парог літаратуры! Гэтае пачуццё ўласціва не толькі літаратару, які пачынае свой творчы шлях, але і чытачу. Адкрываючы вокладку кнігі невядомага яму яшчэ аўтара, чытач міжвольна задумваецца: што свежае, самабытнае раскрыецца перад ім, якімі новымі пачуццямі ўзбагаціць яго душу паэт?

З такімі думкамі і надзеямі бярэмся за зборнік вершаў Н. Кісліка «Разговор с друзьями», выпушчаны нядаўна Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі. Чытаем верш за вершам. Шчырая, інтымная размова захапляе нас. Перад намі вырысоўваецца лірычны герой, які ў сваім паэтычным увасабленні зліваецца з аўтарам. Юнацтва героя, як і юнацтва самога паэта, прайшло ва ўмовах франтавога жыцця. У цяжкіх паходах, у суровых баях ён не толькі загартоўваецца як воін, але і пазнае жыццё. Вось што гаворыць паэт аб сваіх сябрах-аднагодках:

Было каждому
по восемнадцать лет.
И не только еще
Не прошли ни огня, ни воды,
даже только еще
не успели побрить бороды.
И, по правде сказать,
что там было у нас за душой
Кроме жизни короткой
и кроме надежды большой.

І хоць паэт трымае ўвагу чытача пераважна ў коле пытанняў, звязаных з біяграфіяй героя, усё-ж тэматычны дыяпазон зборніка даволі шырокі.

Пачуцці лірычнага героя — гэта думы і імкненні нашага сучасніка, актыўнага пераўтваральніка жыцця. «Нельзя нам по жизни шагать налегке», — гаворыць ён. Прасякнуты глыбокай любоўю да Радзімы, герой радуецца поспехам сацыялістычнага будаўніцтва («Здравствуй, Минск»), імкнецца сваімі гераічнымі справамі ўзвялічыць магутнасць і славу краіны («Друзьям»).

Н. Кіслік — паэт вострай наглядальнасці, удумлівай развагі. Каму з нас не даводзілася бачыць разбураны фашысцкі дот, які, як сведка даўніх баёў, зарос мохам, а часамі і маладымі дрэўцамі. Вось як гэты сумны помнік перадаецца ў паэтычным увасабленні Н. Кісліка:

А с бугра,
где тропы поворот
Сквозь кусты,
От утра до утра
Мертвый дот
Смотрит взглядом пустым.
Этот склеп
На холме, на виду
весь закутанный в мох,
он ослеп
в сорок третьем году
и оглох.

Здольнасць паэта заўважаць незаўважанае, пранікаць у глыбіню з'яві яшчэ больш выяўлена ў вершы «Октябрьский парад».

Малады паэт умее наладзіць кантакт з чытачом, выклікаць у яго жаданне да сяброўскай гутаркі. Гэтага ён дасягае непасрэднасцю і шчырасцю размовы. Для сваіх вершаў Кіслік бярэ звычайныя жыццёвыя факты і паказвае іх без усякіх упрыгожванняў, надуманых сітуацый; учынкі лірычнага героя не выключныя, а звычайныя, якія сустракаюцца ў штодзённым жыцці. У радзе будзённых спраў, апаэтызаваных у вершах, чытач бачыць сваю дзейнасць, у біяграфіі лірычнага героя ён бачыць уласны жыццёвы шлях. Але ўсё гэта дзякуючы спецыфічнай індывідуалізацыі і канцэнтрацыі паэтычных сродкаў знаходзіць жывы водгук у яго сэрцы.

У пошуках мастацкіх сродкаў малады паэт ідзе не па шляху паэтычнага ўпрыгожвання жыццёвых з'яў, а па шляху іх канкрэтнага ўвасаблення. Мастацкія сродкі яго вершаў выразныя, вобразы смелыя і запамінальныя.

Бясспрэчна, кожны паэт вольны ў выбары матэрыялу для сваіх вершаў: ён можа апаэтызаваць звычайны або выключны факт, простую або складаную жыццёвую з'яву. Але ёсць адна абавязковая ўмова: кожны верш, якому паэт зычыць працяглае жыццё, павінен у нейкай ступені тыпізаваць нашу рэчаіснасць. Чытаючы-ж некаторыя вершы Н. Кісліка, прыходзіш да вываду: напісаны яны проста для паэтычных практыкаванняў, у аснову іх узяты не думкі, не пачуцці глыбокія і страсныя, а выпадковыя ўражанні. Які бок жыцця савецкага маладога чалавека можа адлюстраваць паэтычная «канструкцыя» «Дождит», увесь сэнс якой заключаецца ў тым, што дрэннае надвор'е, і ў паэта няма настрою? У плане лірыкі «мікраскапічных пачуццяў» напісаны верш «Страничка из письма». Ён нагадвае сабой альбомныя нататкі. Можна назваць і яшчэ шэраг слабых вершаў.

Адначасова са зборнікам Н. Кісліка выйшла першая кніга вершаў Міхася Пенкрата «Салаўіны бераг».

У абодвух кнігах маладых паэтаў назіраецца агульнасць тэматыкі, бадзёрае ўспрыняцце жыцця, шчырасць развагі.

Адчуваеш подых свежай раніцы, радасць маладосці, калі чытаеш верш М. Пенкрата «Жар-птушка». Паэт змог звычайную з'яву прыроды ажывіць, персаніфіцыраваць, надзяліць жывымі фарбамі, якія знаходзяць водгук у сэрцы чытача. З любоўю піша Пенкрат аб маленькім хлопчыку — будучым хлебаробу, запаветнай марай якога з'яўляецца правесці першую баразну. Тонкі лірызм і глыбокі псіхалагізм гучыць у радках, дзе ён гаворыць аб сваім маленькім герою:

Сёння, пэўна, яму прысніцца
У самым прыгожым і лёгкім сне:
Шуміць залатая пшаніца
На яго баразне.

Добра тое, што аўтар для паэтычнага ўвасаблення адпаведнай думкі зыходным пунктам бярэ якую-небудзь дэталь, вакол якой ідзе паэтычная размова. Так, каб даць апісанне лета ў восенькі час, паэт прыслухоўваецца да цвыркуна, які выпадкова застаўся ў хаце, і на асацыяцыі будуе верш. Па такому прынцыпу пабудаваны твор «Жар-птушка». У тым выпадку, калі гэтая дэталь падабрана трапна і лагічна ўвязваецца з асноўнай задумай паэта, верш атрымліваецца праўдзівым і цікавым. Калі-ж яна прыцягнута штучна, тады верш гучыць фальшыва. Такі дысананс паміж задумай і апаэтызаванай дэталлю адчуваецца ў «Вершах аб сталі», «Провадах» і інш.

Штучнасць і надуманасць губіць паэзію.

Лірыка больш, чым усякі іншы жанр, патрабуе свежасці, сканцэнтраванасці, мастацкай дасканаласці паэтычных сродкаў. М. Пенкрат не заўсёды патрабавальны ў гэтых адносінах да сябе. Ён пасіўна ставіцца да стварэння паэтычных вобразаў. Часта ў яго можна сустрэць штампаваныя, адцягненыя разважанні замест вобразнага ўвасаблення рэчаіснасці. Якое пачуццё ў чытача можа выклікаць такое месца з верша:

Рудакоп няспыннымі рукамі
Адкапаў падземныя пласты,
І пайшоў у свет жалезны камень
Неабходнейшай руды.

А ў Пенкрата ёсць цэлыя вершы, напісаныя сухой, рытарычнай мовай («На трыццатай вярсце» і іншыя).

Н. Кіслік і М. Панкрат — маладыя паэты пераважна лірычнага жанру. Першыя іх зборнікі, якія з задавальненнем сустрэты чытачом, з'яўляюцца сведчаннем таго, што пры настойлівай працы, у пошуках новага абодва паэты зробяць свой уклад у беларускую паэзію.

**В. КЛЕШЧАНКА.**

# Моды

**1.** Сарафан і фігаро з каляровага піке, аздобленыя белым піке і яркай вышыўкай. Спадніца расклёшаная, з праразнымі кішэнямі, па таліі прызборана. Спераду закладзены мяккія складкі.

**2.** Сарафан з кофтачкай з набіўнога шоўку. Сярэдзіна ліфа ад вырэзу да падрэзу на грудзях задрапіравана. Спадніца з трох палотнішчаў, густа сабраная па таліі. Кароткая кофтачка прылягаючай формы з адкладным круглым каўнерыкам і рукавамі-фанарыкамі. Зашпіляецца спераду на гузікі.

**3.** Плацце-касцюм з шаўковай тканіны з арнаментальнай каймой. Джэмпер выкраены па форме рускай сарочкі. Па таліі застрочаны вытачкі. Спадніца прамая, захінаецца на баку.

**4.** Сарафан з кофтачкай з тоўстай шаўковай тканіны. Ліф сарафана са швом спераду і вялікім цэльнакроеным каўнярам. Ззаду ліф глыбока выразаны. Спадніца чатырохшоўная, расклёшаная. На баках закладзены мяккія складкі. Кофтачка тыпу фігаро, прылягаючая, з мяккімі вытачкамі на палочках, абшыта косай бейкай, якая завязваецца спераду.

